ПАРЛЯМЭНЦКІЯ ВЫБАРЫ 1991 У БЕЛАРУСКІМ СКАНСЭНЕ.
ПАЛІТЫЧНАЯ СПРАВАЗДАЧА ГАЛОЎНАЙ РАДЫ ПЕРШАЕ КАДЭНЦЫІ.
ПЭРСПЭКТЫВЫ ЭКАНАМІЧНАГА СУПРАЦОЎНІЦТВА БЕЛАРУСІ ЗЬ БЕЛАСТОЧЧЫНАЙ.
БЕЛАРУСКІ ПАЛІТЫЧНЫ РУХ У ЛЮСТЭРКУ ПОЛЬСКАЕ ПРЭСЫ.
БЕЛАРУСЫ БЕЛАСТОЧЧЫНЫ Ў ПАРЛЯМЭНЦКІХ ВЫБАРАХ У МІЖВАЕННАЙ ПОЛЬШЧЫ.

# 3

# БЕЛАРУСКІЯ НАВІНЫ

## БЮЛЕТЭНЬ

## БЕЛАРУСКАГА ДЭМАКРАТЫЧНАГА АБ'ЯДНАНЬНЯ

БЕЛАСТОК
Студзень 1992

## ЗЬМЕСТ



БЕЛАРУСКІЯ НАВІНЫ. Бюлетэнь Беларускага Дэмакратычнага Аб'яднаньня. Выдае Галоўная Рада БДА. Нумар 3, студзень 1992. Рэдактар выпуску: Аляксандар Максімюк. Адрас: 15-950 Беласток, вул. Сураская 1.

# ПАРЛЯМЭНЦКІЯ ВЫБАРЫ 1991 У БЕЛАРУСКІМ СКАНСЭНЕ

27 кастрычніка 1991 году адбыліся ў Польшчы другія ўжо парлямэнцкія выбары, удзел у якіх узялі беларусы. Вынікі папярэдніх выбараў, з 1989 году, да якіх Беларускі Выбарчы Камітэт прыступіў амаль без прапагандавай кампаніі, бяз грошай і бяз штабу людзей, давалі надзею, што наступныя, пры вадпаведных умовах, дазволяць нам атрымаць месца ў парлямэньце.

Ужо ў лістападзе 1990 году на паседжаньні Галоўнае Рады Беларускага Дэмакратычнага Аб'яднаньня было пастаўлена пытаньне: ці бярэм удзел у наступных выбарах і каго бачым сярод саюзьнікаў? Рада вырашыла, што трэба ўзяць удзел у гэтай палітычнай акцыі, а саюзьнікаў трэба шукаць сярод іншых беларускіх арганізацыяў. Кіраўніцтва БДА лічыла, што ўзьнікне нешта накшталт саюзу беларускіх арганізацыяў, які пакліча супольны выбарчы камітэт ды вылучыць кандыдатаў у паслы й сэнатары.

Аказалася, што ў той час пра выбары думалі ня толькі ў БДА. Сваю кампанію першы пачаў лідэр Праваслаўнага Брацтва Яўген Чыквін. З увагі на тое, што эвэнтуальны электарат беларусаў і праваслаўных — гэта адзін і той-жа электарат, Чыквін пачаў акцыю кампраметацыі БДА, прадстаўляючы яго лідэра Сакрата Яновіча як здрадніка праваслаўя й місіянера вуніяцтва. Выглядала на тое, што створаная Яновічам партыя — гэта група злачынцаў, насланая на Беласточчыну нейкімі нячыстымі сіламі.

Наступны з патэнцыяльных саюзьнікаў — Беларускае Грамадзка-Культурнае Таварыства — дэманстрацыйна заявіла, што адзінай сілай, зь якой можа йсьці да выбараў гэта Праваслаўная Царква і, зразумела, ейная грамадзкая арганізацыя Праваслаўнае Брацтва. Такім чынам нараджалася даволі цікавая кааліцыя Праваслаўнага Брацтва й беларускіх камуністаў, далучыўся да якой яшчэ Саюз Украінцаў у Польшчы.

Вельмі лёгка БДА паразумелася зь Беларускім Аб'яднаньнем Студэнтаў і Літаратурным Аб'яднаньнем „Белавежа". Кааліцыі гэтых трох арганізацыяў ня трэба было нават ствараць — яна ўзьнікла як нешта натуральнае, маючы перад сабою супольныя мэты й каштоўнасьці.

У студзені 1991, зь ініцыятывы БДА, удалося склікаць на супольнае паседжаньне лідэраў беларускіх арганізацыяў: Беларускага Аб'яднаньня Студэнтаў, Літаратурнага Аб'яднаньня „Белавежа", Праваслаўнага Брацтва, Грамадзкага Камітэту Пабудовы Музэю Помнікаў Беларускай Культуры ў Гайнаўцы й праваслаўных сьвятароў. Праект БДА — паклíканьне Рады Беларускіх Арганізацыяў — удзельнікі паседжаньня ўспрынялі зь вялікай падазронасьцяй. Спатрэбілася яшчэ колькі месяцаў непатрэбнай шарпаніны, каб гэткая Рада ўзьнікла, але-ж у справе выбараў нічога яна не зьмяніла. Хоць і прыступілі да яе, акрамя Праваслаўнага Брацтва, усе іншыя арганізацыі, аднак ня было ў іх згоднасьці адносна самое канцэпцыі Рады.

БДА бачыла яе, як маленькі беларускі парлямэнт, які яднаў-бы ўсіх беларусаў у Польшчы й быў-бы іх палітычным прадстаўніцтвам ды арганізатарам грамадзка-культурнага жыцьця. БГКТ бачыла Раду, як дыскусійны форум бязь ніякіх фармальных сувязяў паміж яе сябрамі. Вострая дыскусія паміж БДА і БГКТ над ацэнкай мінулага й кшталтам беларускага руху ў будучыні давяла да поўнай разгубленасьці сьведамага беларускага насельніцтва. Павялічвалі гэту разгубленасьць штораз-то новыя сэнсацыі ў газэце Чыквіна пра вуніяцтва Яновіча.

Гэтым часам кампраметацыя гаспадарчай палітыкі новае ўлады ў Польшчы, заняпад сельскіх гаспадарак, беспрацоўе, клерыкалізм ды ідыятычная прапаганда ў сродках масавай інфармацыі стварылі ў беларускім грамадзтве вобраз мінулай камуністычнай эпохі нібы страчанага раю. Час працаваў у карысьць камуністаў (Саюзу Левых Дэмакратаў) і іхняга лідэра на Беласточчыне Владзімежа Цімашэвіча. Яго партрэт вісеў на кожным плоце й у кожным месцы, дзе можна толькі было яго павесіць, ці прыклеіць. Там, дзе паказваўся Цімашэвіч натоўп шалеў ад захапленьня. Ён нічога ня мусіў гаварыць ні тлумачыць, яму хапала толькі быць. Захапленьне Цімашэвічам і мінулай эпохай узрастала з кожным днём, усьлед за кожным палітычным, эканамічным, ці крымінальным скандалем у Польшчы.

БДА, у праграме якога дамінавалі элемэнты лібэральнай гаспадаркі й адмоўная ацэнка палітыкі папярэдняе ўлады ня мела ніякіх аргумантаў, каб схіліць на свой бок насельніцтва, якое пхалася ў безнадзейнасьць. Паўсюдна пачынала дамінаваць перакананьне — калі будзе Цімашэвіч, вернецца стары „дабрабыт". Заклікі з боку БДА, што рэчаіснасьць зьмянілася й трэба йсьці наперад, дапасавацца да рэальнага юрыдычнага, эканамічнага й палітычнага стану, засталіся незаўважанымі грамадзтвам. Нашы лёзунгі — вучыцца, працаваць, ашчаджаць і арганізавацца, каб дапамагчы самім сабе — людзей толькі ірытавалі.

У траўні 1991 году прайшло першае паседжаньне Беларускага Выбарчага Камітэту. Бальшыня ўдзельнікаў была за тым, каб давесьці да еднасьці беларуска-праваслаўных сілаў, дамовіцца з Чыквінам і праваслаўнымі ўладамі, аддаючы ім нават першае месца на супольным выбарчым сьпісе.

Яўген Чыквін, які тады ўжо часта называў сябе беларусам, неяк ня мог пагадзіцца з тым, каб у назове супольнага камітэту стаяла слова „беларускі". Ягоныя аргументы, нібы сярод праваслаўных ёсьць палякі, украінцы й рускія былі цалкам пераканаўчымі. Ні палякаў, ні ўкраінцаў, ні рускіх, у сапраўднасьці лёс беларускай нацыі ня цікавіць, дык чаму-ж мелі-б яны йсьці пад шыльдаю „беларускага", ці „праваслаўна-беларускага", як прапанавалася, камітэту.

Наіўныя тыя беларускія дзеячы, якія паверылі ў магчымасьць такой кааліцыі. Неўзабаве пераканаўся ў гэтым Аляксандар Баршчэўскі, які да самога тэрміну рэгістрацыі сьпісаў кандыдатаў трымаўся Праваслаўнага Камітэту, а прымушаны быў выйсьці зь яго ў той момант, калі ня было ўжо

часу на ніякі палітычны крок.

Беларускі Выбарчы Камітэт, рэальна ацаніўшы сытуацыю, што галасы нашага электарату падзеляцца між камуністаў, „праваслаўных" і беларусаў, а ў такім-жа выпадку перамога няпэўная, вырашыў прыняць прапанову нямецкай меншасьці — спалучыць краёвыя сьпісы кандыдатаў абодвух Камітэтаў ды такім спосабам павялічыць шанцы на мандат для беларускага кандыдата. Дзеля гэтага аднак трэба было сабраць 20 тысяч подпісаў падтрымкі, што ўдалося зь вялікай цяжкасьцяй. Зьбянтэжаныя прапагандай канкурэнтаў людзі ня ведалі як аднесьціся да Беларускага Выбарчага Камітэту. Адзін гаварыў — „даведаўся пра Беларускі Камітэт, што гэта бязбожнікі й ворагі праваслаўя", другі — „агенты Ватыкану й вуніяты", трэці — „нацыяналісты, якія імкнуцца далучыць Беласточчыну да суседняе дзяржавы", яшчэ іншы — „засакрэчаныя камуністы".

Прапаганда Беларускага Выбарчага Камітэту была даволі мізэрная. Не пакарысталіся беларусы тым, што найбольш эфэктыўнае — дэмагогіяй. Праўда, БВК выкарыстаў эфірны час у радыё й тэлебачаньні даволі сэнсоўна, але ня мог нічога запрапанаваць, што ўраўнаважыла-б сэнтымэнт насельніцтва да камунізму. Беларускае Дэмакратычнае Аб'яднаньне, якое й было фундамантам Камітэту, прадстаўляла выбарчую праграму зусім чужую бальшыні насельніцтва. Людзі прызвычаіліся да таго, што нехта за іх арганізуе ім працу, навуку, адпачынак, падказвае як жыць і каго кахаць. БДА прапанавала пра свае справы думаць і вырашаць самім. І нават той, хто прыхільна мог-бы аднесьціся да выбарчай праграмы БВК ня верыў (і слушна), што беларускі пасол зьмяніў-бы ў нечым яго страшэннае эканамічнае становішча.

Людзі прагаласавалі на тую польскую палітычную сілу, якая найбольш радыкальна выступала супроць новае ўлады — на камуністаў. Людзям здавалася, што камуністы будуць у стане зьмяніць сытуацыю. Ну й на Цімашэвіча — у кожнай вёсцы людзі былі перакананы, што гэта „наш", добра засакрэчаны беларус. Яшчэ адной памылкай БВК аказалася тое, што паставіў ён сьпіс сваіх кандыдатаў бяз выразнага лідэра. Былі на ім людзі, пра якіх трохі ведалі на Беласточчыне й такія, якія ставілі першы свой крок на палітычную сцэну. Вынік выбараў паказаў, што на Цімашэвіча прагаласавала звыш 80 % беларускага электарату. Там, дзе ня было гэтай зоркі — на сьпісе кандыдатаў у Сэнат — галасы беларускага электарату роўна падзяліліся на беларуса, праваслаўнага й камуністу. Камуністы-ж, як кандыдата ў сэнатары, паставілі нейкага Сярожку, што й дазволіла выбаршчыку дадумацца — „свой чалавек".

З парлямэнцкіх выбараў 1991 году выснова можа быць такая: у найбліжэйшай будучыні Беларускае Дэмакратычнае Аб'яднаньне ня можа разьлічваць ані на вялікую падтрымку грамадзтва, ані на ніякі посьпех у выбарах. Застаецца толькі пераконваць сваіх патэнцыяльных выбаршчыкаў, што вяртаньне ў мінулую эпоху — гэта ілюзія, а адзінае выйсьце — ісьці

наперад, бяручы рэчаіснасьць такою, якая яна ёсьць.

Магчыма, што дзеля выбарчага посьпеху трэба было выкарыстаць тыя мэтады палітычнай барацьбы, якімі карысталася наша канкурэнцыя, значыць адкінуць усякую маральнасьць ды зьнішчаць праціўніка хлусьнёю, дэмагогіяй і папулізмам. Гэткім спосабам здабываецца ўладу, але карысьці з такое ўлады адурманенае насельніцтва ня будзе мець аніякай.

БДА павінна йсьці да кожных наступных выбараў не спадзяючыся ў найбліжэйшай будучыні якога-кольвечы посьпеху. Мэтай партыі павінна быць дапамога беларускаму грамадзтву дапасавацца да новага некамуністычнага парадку — каб не заставалася яно за іншымі эўрапэйскімі грамадзтвамі. Сродкам дзеля гэтага можа быць толькі разьлічана на доўгі час і вялікую цярплівасьць арганічная праца, накіраваная перад усім на маладое пакаленьне. Пераконваць запалоханых, зь зьвіхнутымі душамі, усялякіх „тутэйшых", „рускіх палякаў", „рускіх украінцаў", ці яшчэ якіх мутантаў, ахвяраў чужых палітычных і эдукацыйных намаганьняў — пазбаўлена сэнсу. Мы нічога ня можам абяцаць грамадзтву, асабліва-ж карыстацца аргумантам — калі нас выбярэце, лепей будзе. Аніякі цуд ня здарыцца. Можам толькі пераконваць наша насельніцтва, што дапамагчы сабе можам толькі самі. Будзем мець дакладна толькі, колькі самі арганізуем, выпрацуем, абаронім. Ніхто ня дасьць нам, ні працы, ні грошай, ня выхавае дзяцей, не засьпявае нашых песьняў. Усё гэта можам здабыць толькі самі. І ўся справа ў тым, каб пераканаць беларускае грамадзтва, што йначай быць ня можа, што йначай ужо ня будзе.

**ЯЎГЕН МІРАНОВІЧ**

# ПАЛІТЫЧНАЯ СПРАВАЗДАЧА ГАЛОЎНАЙ РАДЫ ПЕРШАЕ КАДЭНЦЫІ

Беларускае Дэмакратычнае Аб'яднаньне шмат хто называе партыяй. Гэткая мэрытарычная кваліфікацыя нашай групоўкі ўсяго, ёсьць фармальна слушная, хоць і надта-ж на выраст. Маем статут, праграму, арганізацыйныя структуры, юрыдычную самастойнасьць. Арганізавалася Аб'яднаньне 10 лютага 1990 году ў Беластоку. Утварыла яго нямногалікая, а перш за ўсё маладая нацыянальная эліта, якая дагэтуль дзейнічала ў нелегальных і паўлегальных утварэньнях — у Беларускім Незалежным Выдавецтве, у Беларускім Аб'яднаньні Студэнтаў, у Беларускім Клюбе, у Беларускім Грамадзкім Камітэце „Грамада", або ў каляарганізацыйных гуртах.

Належны клімат дзеля гэтай, палітычна інтэгруючай, ініцыятывы ўсталяваўся пасьля славутага Круглага Стала й упадку камуністычнага рэжыму ў краіне. Непасрэдным стымулям для яе аказаўся ўдзел у парлямэнцкіх выбарах 89-га кандыдатаў, вылучаных з асяродзьдзя Беларускага Клюбу. Працэнты аддадзеных на іх галасоў выбаршчыкаў ня былі высокімі. Тым ня менш мела месца паваротнае зьявішча: першае ў пасьляваенны час выйсьце беларускай сілы на палітычную арэну.

Беларускае Дэмакратычнае Аб'яднаньне дзейнічае на прынцыпах партыі парлямэнцкага тыпу. Адсутнічае ў ім тэрытарыяльна пашыраная арганізацыйная сетка, для анімацыі якое трэба-б увесьці насамперад эвідэнцыйную фармалізацыю сяброў (дэклярацыі, легітымацыі). Структурная забудова рэгіёну немагчымая без бюракратычнага апарату, грашовыя выдаткі на які вырасьлі-б у сотні мільёнаў злотых. Такіх сумаў у нас няма. На працягу двух гадоў свайго існаваньня Аб'яднаньне ўвогуле дыспанавала фондам прыблізна пяцідзесяцімільёнавым, што вадпавядае пару месяцам рутыннае работы сярэдняй рукі клюбу культуры. Каб палепшыць фінансавае становішча, Галоўная Рада пакарысталася статутнымі паўнамоцтвамі на ўтварэньне Гаспадарчага Гурту. Справа ня з простых. Пасьля працяглых намаганьняў, часьцей няўданых, Гурт канчаткова аформіўся ўвосень дзевяноста першага. Ці будзе ад яго якая карысьць, час пакажа. З надзеяй на яе, кіраўніцтва нашай арганізацыі вельмі канкрэтна й эфэктыўна дапамагала фірмам беларусаў Беластоцкага Краю, але, на жаль, без спадзяванае ўзаемнасьці. Бізнэс мае эгаістычную натуру, а ў нас няма практыкі адэкватных кантактаў зь ім; толькі бярэ й зусім не пачуваецца да нейкае ўдзячнасьці. Пакуль што, відаць, можам рабіць стаўку ано на патрыятычнасьць у некаторых яго варацілаў. Гаспадарчы Гурт павінен выпрацаваць мэханізмы садзеяньня Аб'яднаньня ў сфэры эканамічнага супражжа; у супрацiўным выпадку мы як дзеяцкая супольнасьць надалей застанемся бязь істотных сродкаў. На дзяржаўныя датацыі ня можам разьлічваць. Яны дазволены толькі непалітычным арганізацыям грамадзка-культурнага профілю.

Упартым бумэрангам вяртаецца пытаньне лічбы сяброў Беларускага Дэмакратычнага Аб'яднаньня. У такім становішчы, у якім даводзіцца нам дзейнічаць, ня можа быць скрупулёзнае статыстыкі. Мяркуючы па ступені інтэнсыўнасьці выбарчых кампаніяў, асабліва за мінулагодняй у самаўрады, з Аб'яднаньнем ідэнтыфікуецца дзьвесьце-дзьвесьце пяцьдзесят чалавек (дакладным зьлічэньням паддаюцца пэрсанальныя саставы структурных ворганаў). Інаўгурацыйны год дзеяньняў Беларускага Дэмакратычнага Аб'яднаньня вызначыўся, як і ў кожны пачатак чагосьці, ажыўленай актыўнасьцяй; па-маладому напорыстымі пошукамі ўласнага месца ў жыцьці грамадзтва. Паганяла прытым і сытуацыя ў рэгіёне — набліжэньне спомненых выбараў у гмінныя ды гарадзкія рады. Заснаваны намі Беларускі Выбарчы Камітэт замахнуўся ахапіць акцыяй увесь беларускамоўны

Беластоцкі Край, парасьцягаўшы на ўсе дарогі свае мінімальныя зь мінімальных сілы. Здарылася так у рэзультаце таго, што апынулася ў меншасьці ў ім тэндэнцыя да канцэнтрацыі на некалькіх, рацыянальна сэлекцыянаваных, пунктах. Зманьліва паўплывала на актывістаў павярхоўнае ўражаньне аб нібы моцнай нацыянальнай сьведамасьці ў беларусаў, атоесамленай зь іхнім праваслаўным веравызнаньнем; і ў будучым лішні раз пераканаліся, што нацыя й вера не заўсёды йдуць у пары ( — розныя па сваёй прыродзе). Геаграфія ўзьнікненьня філіяльных камітэтаў — Гарадок, Бельск, Гайнаўка — падказвае практычную навуку: калі імкнемся дабіцца чаго ў дадзенай ваколіцы, трэба каб нашу пазыцыю падзялялі або, прынамсі, падтрымлівалі некаторыя мясцовыя аўтарытэты. Праўда зь ліку даўно банальных сярод практыкаў палітыкі. Аднак, варта яе нагадаць у кантэксьце тых бельска-гайнаўскіх падзеяў, у якія выразна бачылася лідэраў; па тым-жа законе барацьбы за ўладу, але ў непараўнальна лягчэйшых умовах атрымалі мы поўную перамогу ў Гарадку. Ёсьць пэўныя падставы гаварыць пра частковыя дасягненьні Беларускага Выбарчага Камітэту — у Белавежы, Нараўцы, Ворлі, Нарве, ці ў Гайнаўскай гміне. Адначасна нельга забываць пра тое, што „Салідарнасьць", наш галоўны канкурэнт, пазбаўлена, як быццам традыцыйна, доступу да па-за местачковых асяродкаў на тым арэале. Рады ў вясковых акругах фармаваліся ня столькі пад узьдзеяньнем нашых эмісараў, удадатак не сарыентаваных у тутэйшых варунках, колькі менавіта па інэрцыі застылых намэнклятурных сувадносінаў. У этнічна ваднародных ды ідэялягічна маналітных Чыжах або ў Ворлі наогул не адчувалі патрэбы ў якім-колечы камітэце... Вылез на верх і анальфабэтызм у правілах рывалізацыі — у Беластоку працэнт галасоў прэдэстынаваў нас да чатырох райцаў у магістраце, а скончылася на вадным (прычым, не з БДА).

Арганізацыйна-палітычныя высновы з праведзенай кампаніі відочныя, бы на далоні: мапа большых або меншых нашых удачаў у ёй пакрываецца з разьмяшчэньнем Тэрытарыяльных Радаў Аб'яднаньня або, не даведзеных да канца, спробаў арганізацыі іх.

Беларускае Дэмакратычнае Аб'яднаньне як першая палітычная партыя сярод нацыянальных мяншыняў у Польшчы сустрэлася з сэнсацыйным прыняцьцем у друку; таксама й у замежным. Зьявіліся радыё- і тэлеперадачы. Папулярызацыя Аб'яднаньня далася нам як бы самім лёсам; спэцыяльныя захады дзеля гэтага з нашага боку былі нязначнымі. Пры нагодзе выявілася трывожная рыса ў інтэлектуальным патэнцыяле арганізацыі, незразуменьне ўсяе глыбіні гістарычнага пералому, сутнасьці наступаючага часу. Не зважаючы на статут і праграму, у якіх адназначна фармуляваліся дэмакратычныя падставы, у актывісцкім асяродзьдзі дамінавала машынальнае ўспрыманьне Беларускага Дэмакратычнага Аб'яднаньня паводле паралелі да добра ведамай дасюль Польскай Аб'яднанай Рабочай Партыі. Не адразу даходзіла да сьведамасьці тое, што гасьне тут эпоха ідэялягічных дзяржаваў, у якіх усенька падпарадкавана інтарэсам т. зв. накіроўваючай сілы; не камуністы служылі Польшчы, а наадварот. Трактаваліся ў катэгорыях палітычнага скандалю факты

ігнараваньня адміністрацыяй пастулятаў Краёвай Управы ці Галоўнай Рады. Працэс дэпалітызацыі ліквідуе стан непасрэднай і простай залежнасьці ўстановаў і — нават — прадпрыемстваў ад партыяў, якія – юрыдычна ўжо– выведзены ў нэйтральнае поле грамадзкай альтруістычнай актыўнасьці. Таму важкасьць усякіх дамаганьняў нашых нельга разглядаць выключна ў рамках іхняе слушнасьці або абгрунтаванасьці. Мусяць яны стацца й адчувальнай у афіцыйных уладах патрэбаю ў шырокіх слаях насельніцтва. Лёгка мець рацыю — цяжка рэалізаваць яе.

Беларускае Дэмакратычнае Аб'яднаньне — гэта згуртаваньне людзей адзінае волі ў карысьць справе беларускай нацыянальнай меншыні ў Польскай Рэчыпаспалітай. Удзел у яго рабоце наклікае перадусім клопаты ды пэртурбацыі, чымсьці палёгку й трывіяльныя прывілеі. Адсюль і ўзялася элітарнасьць у ім, кадравасьць; у каго не праявілася нацыянальная натхнёнасьць шчасьліва спалучаная з чуцьцём рэалізму, той ня ўтрывае з намі, адыйдзе. Гэткае сытуацыйнае выбранства ад мусу бягучага моманту з гадамі сшарэе, зьнізіцца; лёгіка ўсякае арганізаванасьці тлумачыць, што сур'ёзныя вынікі не паяўляюцца на нецярплівае жаданьне, іх чакаюць, нярэдка, марудна доўга. Умацуемся мэтадычнаю працаю, плянаванаю на пакаленьні. Хутка зробленае — гэта кепска зробленае. Практычнасьць энтузіязму абмежаваная да кароткае мэты.

Пасьля пачатковае стадыі імпэтнасьці Беларускага Дэмакратычнага Аб'яднаньня наглядаецца застой. Шпарка канстытуаваліся Тэрытарыяльныя Рады — найперш у Гарадку, затым у Гайнаўцы, Бельску; у Гданьску, міgranцкая. Ініцыяцыі ў Саколцы й у Нарве заціхлі; трохі гаворкі чулася пра Беласток. Прычыны сваеасаблівае буксацыі — удумаўшыся ў іх

— досыць ясныя, але агульна, у кантэксьце ўнутрыарганізацыйнае філязофіі. Апатыя ў цэлай краіне шмат у чым растлумачвае нясумненны маразм у нашых шэрагах. Які-ж адказ на элемэнтарнае пытаньне, дзеля чаго васобы гуртуюцца ў калектывы? Бо ўсьведамляюць яны сабе супольны інтарэс, нерэальны адзінкам. Індывідуальна недасягальнае дастаецца гуртавымі намаганьнямі. Іначай кажучы, у грамадзе ёсьць справа да нечага. Яе артыкуляцыя, аднак, адбываецца складана, праз ерархічную цыркуляцыю; інстытут правадырства абавязвае зьнізу да вярхоў, а ягонай слабасьцяй ёсьць падатлівасьць на выраджэньне ў авантурызм, ва ўмовах ізаляванасьці. — Тэрытарыяльная Рада ў Гайнаўцы заглухла не таму, што там рай ды бясклапоцьце; бракуе, менавіта, апошняе інстанцыі, дысцыплінуючага ядра.

З увагі на скромныя маштабы самога Беларускага Дэмакратычнага Аб'яднаньня, асабовы састаў яго Галоўнай Рады так задуманы аўтарамі Статута, каб знаходзіўся ў ёй паўнамоцны кожнай Тэрытарыяльнай Рады; разам аж да лікавай перавагі ўключна. У рэчаіснасьці, якая склалася, гэтая

абачлівая канцэпцыя ўжыцьцявілася амаль ад пачатку існаваньня — вырашальны голас належыць не да цэнтру, калі даходзіць да ўхвальных пастановаў. На сэсіях кіраўніцтва кворум дыктуе правінцыя. Аптымальна разумныя прапорцыі ўдзелу ў дэцыдэнцтве ўсіх зацікаўленых ня цалкам спраўдзіліся — даволі значная лічба сяброў моўчкі самавыключылася ў пэрыяд леташняй кампаніі й болей не вярнулася. Ці павінны мы выяўляць прэтэнзіі да іх за гэта? У аніякім выпадку! Дзеяньне чалавека ёсьць экспазыцыяй ягонай свабоднай ды непрымушонай дабраволі. Дэфініцыя зьмяшчае ў сабе ўсёмагчымы комплекс акалічнасьцяў: зьняверанасьць, расчараваньне, зьмена поглядаў, сямейныя камплікацыі, інтымныя ўскладненьні, зьяўленьне хваробы, і т.д. Недаравальнасьць датычыць аднаго — намеранага шкодніцтва.

Краёвая Управа працавала несыстэматычна, рыўкамі. Стала некамплектная; спарадычна карыстаючыся надзеленым ёй правам на аўтаномнасьць, урэшце рэшт падвешаная да рытму Галоўнае Рады. Папрокаў у яе адрас у гэтым сьцьверджаньні мала, аб'ектыўна гледзячы. Апэратыўны, а не ўстаноўчы, характар управы абумовіў ёй рэкрутацыйную базу да ваяводзкай мэтраполіі й найбліжэйшых ваколіцаў. Спрацаваў адначасова адвечны падзел на гаворанае й робленае, тэорыю й практыку, думку й яе ажыцьцяўленьне. Выканаўчыя ролі падзяляюцца на дазволеныя, з самачыннымі апанажамі, і наказныя, за якія трэба, звычайна, плаціць. Мэнталітэт заданьняў Краёвае Управы найчасьцей такі, што бяз штатнае адзінкі як мінімуму рэалізацыйныя пачынаньні ў ёй не набудуць рэгулярнасьці.

Беларускае Дэмакратычнае Аб'яднаньне супрацоўнічае зь Беларускім Народным Фронтам „Адраджэньне" у Рэспубліцы Беларусь. Неўзабаве пасьля Устаноўчага Кангрэсу сустрэліся мы зь бязумоўнай падтрымкаю ў форме дэкляарацыі, зь якою ад імя фронтаўцаў выступіла іхняя Управа Сойму. Успамагаючы нацыянальна-вызваленчую апазыцыю ў гэтай савецкай калёніі там, якая знаходзілася на паўлегальным становішчы, удалося нам наладзіць важныя мерапрыемствы — сымпозыюмы „Белавежа '90" і „Белавежа '91". Прайшлі яны як канвэрсаторыі кіруючых дзеячаў, у іх ліку й з Замежнай Беларусі. Афіцыйная Варшава зрэагавала перш бязладнаю істэрыкаю, вяр'яцкімі інсынуацыямі на бачынах газэтаў ды ў радыёперадачах. Апагеем гону на нас было пасольскае абвінавачаньне нашага руху на форуме Парлямэнту ўва ўсіх, палітычна непрабачальных, злачынствах, завяршыўшы іх пералік сэпаратызмам і дзяржаўнай здрадаю! Дата „Белавежы '90" зьбеглася нефартова з фіяскам перамоваў у Менску міністра замежных справаў Польскай Рэчыпаспалітай, якому, удадатак, падсунута прыкрыя палякам факты дэвастацыі духоўнай і матэрыяльнай культуры беларускамоўнага Беластоцкага Краю. І для кантрасту — можна сказаць, з пагодлівым спакоем ды аж зь некаторай сымпатыяй аднесьліся ўрадавыя дзейнікі да „Белавежы '91". Адкуль бруілася амплітуда гумораў? — Бо Беларусь, нарэшце, паразумелася з Польшчай на міждзяржаўным узроўні.

Беларусы ў Беласточчыне пэрманэнтна на падазрэньні, чаго нельга інтэрпрэтаваць з крыўдлівым жалем; з нацыянальнымі мяншынямі ўсюды не завельмі йначай. Недастаткова прыкмячаем і наступную норму: наш тут лёс ёсьць функцыяй суадносінаў паміж сталіцамі. Жывем у нясьціханай рызыцы апынуцца бязь віны вінаватымі, інструмэнтальнага падыходу да пастаўленых намі праблемаў. Бяз умельства манэўраваць між Сцыляй і Харыбдаю нярaз пакалечымся на падводных камянёх інтрыгаў, эгаізму босаў палітыкі. Уб'емся тады ў сьляпы завулак рэвіндыкацыйных паставаў, маральна-палітычнага максымалізму, адарванасьці ад рэаліяў аніколі ідэальнага грамадзтва; апосталы праўды пажаданыя, але ніхто не сьпяшаецца накарміць іх, адзець і абуць.

Настойвае на міжпартыйныя сувязі з Аб'яднаньнем новаўтвораная Беларуская Сацыяль-Дэмакратычная Грамада, давёўшы летась у Менску да ўступных гутарак, закончаных апублікаваньнем інтэнцыйнае заявы. Знаёмства з тымі рэспубліканскімі сацыяль-дэмакратамі, хоць і зь нясумненным радаводам з „Адраджэньня", ставіць нас перад абліччам клясычнага кампрамісу. Іхняе змаганьне з камунізмам як ідэялёгіяй вясковае галоты ў яго сёньняшніх дэсыгнатах, калі прамысловы пралетарыят татальна адкінуўся, не кваліфікуе яшчэ ў нашы натуральныя саюзьнікі. У іх на відавоку, усё-такі, сацыялізм; няхай сабе й эўрапэйскі, не па-расейску казарменны. У тэарэтычным пляне сумненьняў нямаш, але ўваходзім у дачыненьні з палітычнаю эмпірыяй — Грамада рыхтуецца да дзяльбы ўлады ў Беларусі, а гэта немалаважны фактар у накірунках далейшых разважаньняў Галоўнае Рады наконт вэктараў тактыкі. Побач падае свой голас Аб'яднаная Дэмакратычная Партыя Беларусі; аказваецца, тыпова камуністычная мімікрыя рускамоўных іншапляменцаў, гатовых пайсьці на якую хочаш правакацыю, каб запыніць незалежніцкія памкненьні ў Беларускім Народзе. Запрашае да сябе й Беларуская Нацыянальна-Дэмакратычная Партыя, найменш рэспэктоўная, зфэмэрычная й зь нявыразнаю праграмаю, пабудаванаю кампілятыўна.

Прапановы, атрыманыя ад польскіх партыяў, беспрэтэнцыёзныя на нейкую сталасьць, чыста каньюнктурныя. Разьлічаныя на прыбыткі ўплываў у выбарчыя акцыі, на аблегчаны пераход у беларуска-меншасны электарат, у якім пануе аблогавая псыхалёгія, паводзіны накшталт галійцаў у Алезіі, прымушаных Цэзарам капітуляваць з голаду. Дэмакратычная Вунія займае пазыцыю грамадзянаў Эўропы: першараднасьць нацыянальнага пытаньня ў візіі будучыні кантынэнту не падлягае інтэлігентнаму сумненьню. Польшча, не ачышчаная ад ксэнафобіі, нацыяналізму, і ня вылечаная з этнацэнтрызму, страчвае шанцы на інтэграцыю з цывілізаваным сьветам. Меней катэгарычна выказваліся ў двухбаковых канвэрсацыях прадстаўнікі Сацыяль-Дэмакратыі Польскай Рэчыпаспалітай, Польскай Сацыялістычнай Партыі, Грамадзянскага Паразуменьня „Цэнтрум", Канфэдэрацыі Незалежнай Польшчы. Зандажныя канфэрэнцыі зь імі не давялі да канкрэтных рэзультатаў, а пасьля ўсталяваньня новага Парлямэнту — не аднавіліся. Найглыбей зайшлі мы ў пэртрактацыях з Вуніяй, як бы

санкцыянаваных аказійным спатканьнем зь яе лідэрам, Тадэвушам Мазавецкім (анімаваным Тэрытарыяльнай Радаю ў Бельску). Наплыўшая палітычная цішыня вакол Беларускага Дэмакратычнага Аб'яднаньня вынікнула ў дзень кампраметуючага ў рэцэпцыі палякаў пройгрышу Беларускага Выбарчага Камітэту. Прэтэндэнты ў партнёры нам адхіснуліся й сьлед па іх прастыў. Гэта зразумела й лягічна: яны-ж не філянтропы. Але, калісьці, паварочаюцца сюды. Ня будзе як ім абыйсьці Аб'яднаньне другою дарожкаю; яно ўнікальнае ў палітычным жыцьці беларускай нацыянальнай меншасьці ў Рэчыпаспалітай, увабраўшы ў сябе блізу цэлы патэнцыял адэкватнага актывізму.

Зносіны Беларускага Дэмакратычнага Аб'яднаньня з партыямі праходзілі досыць хаатычна насамперад таму, што гэта мы былі аб'ектам экспрэсіі іхняе. У блытаніне арганізацыйнага станаўленьня не хапала нам энэргіі на якую-колечы экспансіўнасьць. Дасьведчанасьць лідэрскай экіпы Аб'яднаньня паступова бярэцца цяпер прарастаць у прафэсійную спраўнасьць, цэльнасьць апазнаньня ды высноваў. Сядалі па-зялёнаму даверліва за стол з палітыкамі, за якімі стаяць-жа напрактыкаваныя штабісты ды маюцца ў іх руках такія матэрыяльныя рэсурсы, пра якія мы нават і ня марым. За стратэгічны сэнс свайго існаваньня, самы галоўны з галоўных, прымаем усебаковае разьвіцьцё Беластоцкага Краю. А якія-ж могуць быць захады нашы ў тым напрамку? Адказваючы на гэта, самі сабе аплікуем пакутлівую мешаніну паняцьцяў і катэгорыяў, пераймаючы грамадзкую інжынерую з былых камітэтаў падгледжаных у маладосьць партыйцаў, не аналізуючы іх упадку, ганьбы. Калі хто думае, што Беларускае Дэмакратычнае Аб'яднаньне павінна стацца канкурэнцыйным Беларускаму Грамадзка-Культурнаму Таварыству, той нічога не зразумеў з усяе сутнасьці справы. Роля Аб'яднаньня ў выхоўваньні тутэйшага беларуса да найвышэйшага ўзроўню палітычнае нацыі. Не задавальняцца дозамі талеранцыі ў кульце мовы й культуры, намагацца быць нясьпешным гаспадаром на бацькаўшчыне, пазбавіцца залежнасьці ў выглядзе ўдзячнага арандатара. Рамкі для экзыстэнцыі мяншыні ў дзяржаве зазвычай не занадта шырокія, але й не заціскаюць пятлі на шыі. Жывыя доказы на гэта ў нас ужо ёсьць — неблагія выбары ў самаўрады. Пры нагодзе насоўваецца парадаксальная рэфлексія: і тыя распыленыя ўдачы як-бы перавысілі мажлівасьці пакарыстацца імі — праведзеных у ґмінныя й гарадзкія рады райцаў ня бачым у якасьці актывістаў Аб'яднаньня. Бясспрэчны грэх Галоўнай Рады й Краёвай Управы першае кадэнцыі! Набліжаны да скандальнае яскравасьці, бы ўдар па фундамантах будовы.

Затое на публічным відавоку надзьмулі нам у нашу кашу ў другую парлямэнцкую кампанію. Акуратнае вывучэньне яе вынікаў належыць да кампэтэнцыі Беларускага Выбарчага Камітэту, правамоцтвы якога працягнуцца да канца месяца траўня, што не перашкаджае колькі словам генэральнае ацэнкі. Шакуе супастаўленьне лічбаў выбаршчыкаў, што выказаліся за прэтэндэнтам у Сэнат — і Сойм. Прапорцыя шэсьць на адзін вытварыла сюррэалістычны эфект, для расшыфроўкі якога трэба падабраць ключ, што ляжыць трохі далей ад нашага падручнага варштату. Прайсьціся

праз холад аб'ектыўных законаў народнай вэрыфікацыі ідэяў, суцішыўшы дрыготку эмоцыяў. Гэткі шпацыр нязьменна выводзіць нас на абрыдліва ўтоптаную ісьціну, формула якое — перавага сацыяльнай тоесамасьці над нацыянальнаю. Прыкладаў для яе сярод беларускай стыхіі хоць ты адбаўляй! І візаві — каня ўпрыпражку таму, хто вышукае культурнага паляка, які, прынамсі элемэнтарна, не адолее роднамоўнага пісьма й чытанкі. Тое, што нехта ў нас назаве сябе беларусінам, прыемна пачуць, але хацелася-б і ўпэўніцца, ці ён разумее, што гэта значыць. Якім зьместам напоўнена яго рубрычнае саманазваньне? Неаблігатарыйная насычанасьць этнічных суб'ектаў айчыннай культурай і гісторыяй, а фактычна інцыдэнтальная ўсяго або й спарадычная, нівэлюе папулярнае адчуваньне васобнасьці інтарэсаў, інтэгруе й духоўна з польскаю бальшынёю. Асымілюе, спачатку на палітычнай плятформе. Праваслаўная індывідуалізацыя як рэлігійная, натуральна, ападае ў другараднасьць. Трыяда канстытуцыі беластоцкага беларуса — сацыяльнасьць, веравызнаньне, этнічнасьць — пасьлядоўна матэрыялізавалася ў градацыі арытмэтычных паказьнікаў вопцыяў: сацыялістычнай, канфэсійнай, нацыянальнай (3 : 2 : 1). Адвярнуць парадак адпаведна запатрабаваньням гістарычнае хвілі зможа ў прысьпешаных тэмпах нішто іншае як ціск вонкавага атачэньня; не занядбоўваючы пабуджэньня ўнутраных працэсаў. Палітыка — гэта прадбачваньне.

Інсьпіраваная Беларускім Дэмакратычным Аб'яднаньнем і неабходная гаспадарчаму выратаваньню Беластоцкага Краю самаўрадавая Злучнасьць Усходніх Гмінаў „Нарва" не скранулася з зачаткаў. І бяз прыглядкі бачна, што гэты рудымэнт ёсьць скутак усяго камплямэнтарна папярэдняга. Кнігу няўдачаў мусім навучыцца перачытваць беспамылкова. Зь яе дазнаемся, як плянаваць навігацыю, каб не асесьці на мялізьне. Яна разумнейшая за фанфарныя перамогі. У ёй сум роздуму. Бязвыйсьце — дзіця панікі.

Як няма правілаў без адступленьняў, якія, пераважна не пярэчаць дадзенаму адкрыцьцю, так і той выраўноўваючы бег трыядных дэлегантаў у сэнатарскія крэслы не аспрэчвае прэпасольскай крывой уніз; агонь наводзяць на перадавую. Беларускаму Дэмакратычнаму Аб'яднаньню пашанцавала як бы ўзамен прабіцца да заснаваньня Рады Беларускіх Арганізацыяў, каб на яе ідэёвай базе м. ін. ўзьвесьці ўрадавы Цэнтар Беларускай Культуры. Наіўнасьць ідэялістаў недалёка заходзіць: еднасьць Рады разьбіваюць дэлегаты да яе ад Беларускага Грамадзка-Культурнага Таварыства; яны небеспадстаўна супрацівяцца непазьбежнай потым фінансавай дэградацыі Таварыства з манапаліста ў раўнапраўныя кліенты праектаванай міжарганізацыйнай установы. Нікому не надакучае толькі яму аднаму круглы кашалёк; дабрадзеі здараюцца ано ў байках, часам у мільярдэрскіх фаміліях... Безграшоваму Аб'яднаньню здаецца, што нехта зь ім падзеліцца, сыпане ў кішэню. Спадзеўнасьць бедных. Камплікацыі ў Радзе Беларускіх Арганізацыяў зводзяцца да двух блёкаў інтарэсаў, якія

актуальна расколваюць яе на бязумоўны хаўрус Беларускага Грамадзка-Культурнага Таварыства з Камітэтам Пабудовы Беларускага Музэю ў Гайнаўцы, і на Беларускае Дэмакратычнае Аб'яднаньне выступаючае ў пагадненьні зь Беларускім Аб'яднаньнем Студэнтаў ды Беларускім Літаратурным Аб'яднаньнем „Белавежа". Бескампраміснасьць тут саштурхоўвае ў маргіналізацыю гэтай інтэрарганізацыйнай структуры. Назіраецца ў Радзе тэрміновую патрэбу ў ліквідацыі атмасфэры накіраванае на дамінацыю кагосьці над кімсьці. Стабілізацыі яе, такім чынам, у духу ўзаемнае кансультацыі ды супрацоўніцтва. У супраціўным выпадку — разгарыцца канфлікт, разбушуецца фракцыйнасьць у стылі: хто — каго! Дапускаючы да рэдукцыі так карыснае ініцыятывы, далі-б непахвальнае пасьведчаньне сваёй недалёкасьці. Умеем-жа крочыць дапераду, не ўвальваючыся ў балота, даказаўшы гэта сапраўды маштабным ініцыяваньнем паўстаньня Рады Нацыянальных Мяншыняў у Польскай Рэчыпаспалітай. Спэцыфічныя дылемы ў непалякаў падобныя, часта ідэнтычныя. Ня пульсуюць пакуль што супярэчнасьці ў асяродку тае Рады, прарочачы ёй даўгавечча. Бездыскусійную сэнсоўнасьць. — Абедзьве Рады канстатуем як групавыя рэпрэзэнтацыі ў кантактах з урадавымі чыньнікамі перадусім, калі спатрэбіцца большы націск, чымсьці павасобных іхніх суб'ектаў.

Ад некалькіх гадоў натыкаемся на інтэнсыўнае флянсаваньне ўкраінства ў Беластоцкі Край. Гэты анэксіянізм абурае сваім баламуцтвам і дывэрсійнасьцяй паводле сцэнару „крэсавай" эндэцыі, усяляк інтрыгуючай, каб расшчапіць на элемэнты наш этнас. Вядомаму культуртрэгерству на Гарадзеншчыне й у Панямоньні прост нясьцерпная беластоцкая беларусіяна. Мы ўчынілі-б непапраўны промах, аднак, трацячыся ў паядынках з герольдамі бельска-кляшчэлеўскіх украінафіляў. Ня ступім на дрыгву фундаванай нам брыдкай афэры, каб не засмактала! Вайна за душы, сярэдневяковае вырываньне сэрцаў, — гэта не занятак дэмакратам. Шануем волю чалавека быць тым, кім ён хоча, нікому ня шкодзячы. Мы бязумоўна ня супроць украінскае сьведамасьці як такой, але мэтадаў маральна-палітычнага тэрору ў імя ейнага тэрытарыяльнага прагрэсу.

Партыі ў дэмакратыях Захаду напрацавалі за вякі каноны выніковасьці, зь якімі не палічыцца — бы ў вадзе ўтапіцца. Схэматычна ўяўляюцца яны накшталт гняздоўя клюбаў і вяжучых іх друкаваных ворганаў. Зародкі таго й таго сфармаваліся ў Беларускім Дэмакратычным Аб'яднаньні: Тэрытарыяльныя Рады й бюлетэнь „Беларускія Навіны". Сеткай тых экспазытураў Аб'яднаньня трэба ўкрыць мястэчкі й вёскі-сядзібы гмінных управаў. Задача не з фантастычных, калі ня прыкладваць да яе мерак з аналёгіі да масавасьці, скажам, гурткоў мастацкай самадзейнасьці. Сама Тэрытарыяльная Рада й яе палітычная кліянтура — гэта так адрознае, як тэрцэт на сцэне й публіка ў глядзельнай залі. Некальківасабовай цалкам дастаткова. Шэраговых ідэялёгаў на вялікай арбіце.

„Беларускія Навіны" выпрафіляваць у часопісны пэрыёдык, няхай сабе штоквартальны, будзе куды цяжэй ня столькі з-за чалавечага фактару, колькі фінансавага. Ён, бадай, ніколі не самааплаціцца. І данацыі ня ўтрымаюць яго. Агорала-б выдаткі нейкая фундацыя, падыйшоўшы салідна: рэдакцыйныя штаты, уласны друк, плата за кальпартаж, ганарары. Гэта няпраўда, што палітыка й бізнэс могуць квітнець абапал ня вітаючыся; яны неразлучныя. Адно на вадно зарабляюць. Хто даслоўна, а хто спрыяньнем. Беларуская палітыка, як і беларускі бізнэс, яшчэ ў эмбрыянальным стане, але безальтэрнатыўны пэсымізм тут не дарэчы, калі ўжо на працягу месяца зьмяняюцца эпохі.

Дбаньне пра Беларускае Дэмакратычнае Аб'яднаньне страціць свой сэнс, не дапільнаваўшы яго рацыі быту. Так прападаюць ідэі, не палічыўшыся з жыцьцём.

**Галоўная Рада**
**Беларускага Дэмакратычнага Аб'яднаньня.**

Беласток, сьнежань '91.

# ПЭРСПЭКТЫВЫ ЭКАНАМІЧНАГА СУПРАЦОЎНІЦТВА БЕЛАРУСІ ЗЬ БЕЛАСТОЧЧЫНАЙ

Мэтай гэтага артыкула зьяўляецца кароткі аналіз вонкавага гандлю Беларусі й ацэнка магчымасьцяў яе супрацоўніцтва зь Беласточчынай. Аўтар звасяроджваецца перш за ўсё на зьменах цэнтральных бюракратычных структураў эканомікі ў сувязі зь іх пераходам у кірунку рынку.

Яшчэ тры гады таму Беларусь вяла свой вонкавы гандаль у вельмі абмежаваным маштабе. Большасьць пытаньняў экспарту й імпарту вырашалася цэнтрам у Маскве, а мясцовыя органы проста выконвалі загады. Гарбачоўскія рэформы далі рэспублікам большую незалежнасьць. Паволі й марудна, але настойліва, узьнікалі законныя падставы для вонкавай эканамічнай дзейнасьці рэспубліканскіх прадпрыемстваў усіх сэктараў гаспадаркі, у тым ліку й прыватнага. Усьлед за гэтым пачалі ўзьнікаць гандлёвыя фірмы пры павасобных міністэрствах, абласных і гарадзкіх выканаўчых камітэтах. Права на замежны гандаль могуць атрымаць таксама кааперáтывы, „малыя прадпрыемствы" (юрыдычны тэрмін, які вызначае статус фірмы, а не сапраўдную яе велічыню), калгасы а нават грамадзкія

арганізацыі. Фірмы, якія займаюцца замежным гандлем можна ў прынцыпе падзяліць на тры падставовыя катэгорыі:

1) цэнтральна-ўрадавыя,
2) лякальна-адміністрацыйныя,
3) рынкавыя.

Цэнтральна-ўрадавыя гандлёвыя фірмы знаходзяцца пераважна ў Менску й дзейнічаюць пры міністэрствах або іншых установах цэнтральнай адміністрацыі. Кіруюць імі людзі з добрай прафэсіянальнай падрыхтоўкай, але ўсе пытаньні вырашаюць у іх сваім загадам палітычныя кіраўнікі. Гэткія фірмы маюць найбольшую свабоду магчымасьцяў, але адначасна падлягаюць найбольш строгаму кантролю. Апрача сваіх уладаў надалей кантралюе іх Масква й КДБ, гаспадарчая сэкцыя пры якім усё існуе. Людзі ў такіх фірмах працуюць паводле сталінскай сыстэмы — стымулям для іхняй працы зьяўляецца страх. Фактычныя рэзультаты ня ёсць іхняй мэтай — заплата ўсё роўна такая-ж. Затое ў выпадку нейкай памылкі, ці парушэньня законаў працаўнікоў строга разьлічваецца (уключна з турмою). Таму ў сваёй працы яны лепш ня зробяць нічога, чымсьці мелі-б зрабіць нешта дрэнна (г.зн. супроць рэгуляцыяў, з разьлікам на зыск).

Лякальна-адміністрацыйныя фірмы падлягаюць лякальнаму кіраўніку (старшыні выканаўчага камітэту) і выконваюць ягоныя загады, але фармальна-ж дзейнічаюць самастойна (такім чынам палітычны кіраўнік пазбаўляецца ад адказнасьці). Фірмы такога тыпу адзначаюцца найбольшай апэратыўнасьцяй у дзеяньні. Іхняя дзейнасьць часта абапіраецца на асабістыя кантакты старшыні, таксама па-за межамі рэспублікі. Лякальныя фірмы часта зьмяшчаюць у сабе прыватныя фірмы або каапэратывы, найчасьцей нефармальна, у форме асабістых кантактаў. Усё гэта паволі стварае падваліны для зьмены эканамічнай сыстэмы. Інакш кажучы, кіруючая кадра шыкуе сабе выхад у сфэру рынкавай эканомікі. Таму фірмы гэткага тыпу шукаюць надзейнага замежнага партнэра, зь якім можна было-б ня толькі сёньня заключаць выгадныя кантракты, але таксама цесна супрацоўнічаць і ў будучым ды за яго пасрэдніцтвам выходзіць у сьвет.

Рынкавыя фірмы (каапэратывы, „малыя прадпрыемствы", суполкі з абмежаванай адказнасьцяй і г.д.) — гэта фактычна адзіныя фірмы, якія поўнасьцяй у сваёй працы кіруюцца эканамічным чыньнікам. Дзеля максымалізацыі свайго зыску яны гатовыя рабіць усё, уключна зь дзеяньнямі супроць законаў. Іх сапраўдныя магчымасьці ў міжнародным гандлі найчасьцей мізэрныя, хаця ў павасобных выпадках могуць яны дабіцца „немагчымага". Людзі гэтага сэктару вельмі часта характэрныя абсалютным дылетанцтвам, але затое хапае ім ініцыятывы.

Незалежна ад характару фірмы, для ўсіх галоўнай перашкодай у гандлёвай дзейнасьці — неабходнасьць мець г.зв. „ліцэньзію". Афіцыйна ліцэньзію атрымліваецца ў Дзяржаўным Камітэце па Зьнешна-Эканамічнай Дзейнасьці, установе якая, праўдападобна, усё яшчэ знаходзіцца пад строгім кантролем КДБ (нават цяпер, пасьля фармальнага яго распуску). Катэгорыі прызнаваньня ліцэньзіяў невядомыя. Вядома толькі, што галоўным там палітычны чыньнік. Немалаважную ролю адыгрываюць асабістыя знаёмствы і, праўдападобна, карупцыя. У практыцы ліцэньзія (або лепш: яе адсутнасьць) самая вялікая перашкода ў заключэньні карысных кантрактаў. Ліцэньзіяй дзяржава сьцеражэ ўсю сваю сыравіну, якая зьяўляецца найбольш пажаданым таварам у гандлі. Беларускія прамысловыя-ж тавары, з увагі на іхнюю нізкую якасьць ды адносна высокія цэны, доўга яшчэ ня будуць прадметам кантрактаў паміж беларускімі фірмамі й замежнымі іх партнэрамі.

У гандлёвай практыцы найбольш плённымі могуць аказацца кантакты зь лякальнымі фірмамі — гэтыя кантакты адчыняюць таксама найвялікшыя пэрспэктывы. Як я ўжо сказаў раней, лякальныя босы палітыкі шукаюць дарогу ў сфэру капіталу й камэрцыі. Гэткая практыка найчасьцей востра асуджаецца апазыцыйнымі кругамі — праспэрыта камуністаў у сфэры камэрцыі выклікае натуральнае супраціўленьне. Трэба тут аднак задумацца над шырэйшым аспэктам гэтае праблемы. З вопыту іншых дзяржаваў ведаем, што пераход ад камуністычнай (сацыялістычнай) гаспадаркі да капіталізму не такая ўжо простая справа — нават, калі створыцца дзеля гэтага адпаведныя юрыдычныя ўмовы, заўсёды застаецца яшчэ праблема капіталістаў: скуль іх узяць? Трэба задумацца, ці камуніст, які трансфармуецца ў капіталіста, наагул яшчэ камуніст? Я лічу, што не, і таму працэс гэты ўспрымаю як станоўчы. Калі ператварэньне цэнтралізаванай камуністычнай гаспадаркі ў вольную й канкурэнцыйную капіталістычную эканоміку ёсьць найпершай мэтай, дык кожны спосаб добры, абы толькі вёў да гэтае мэты й даваў пажаданыя рэзультаты.

Апазыцыя цалкам іначай адносіцца да гэтага пытаньня й гэта зразумела ў варунках палітычнай барацьбы. Але цяпер, калі ідэялягічная барацьба ўжо адмірае, на ўсю справу трэба глядзець іначай, у катэгорыях карысьцяў — калі частка існуючай намэнклятуры пяройдзе ў камэрцыю, гэта ня толькі „разьмякчыць" уладу, але й створыць першыя кадры для новага эканамічнага ладу.

Працэс зьменаў эканамічнай структуры будзе праходзіць у Беларусі доўга й нерацыянальна. Грамадзтва надалей думае катэгорыямі гэтак званай „сацыяльнай справядлівасьці" ды гэты чыньнік колькі яшчэ разоў будзе выкарыстоўвацца ў палітычнай барацьбе. Можна спадзявацца, што

грамадзтва не заакцэптуе беспрацоўя, радыкальнага павышэньня цэнаў і браку сацыяльнага забесьпячэньня — разьлік на нейкі хуткі „паварот" у эканоміцы тут не дарэчы.

Беларусь у найбліжэйшыя гады будзе патрабаваць вялікага імпарту сельскагаспадарчых прадуктаў. Павялічыцца таксама запатрабаваньне на прадукты высокае тэхналёгіі: электроніка, камп'ютары, машыны. Можна таксама спадзявацца зьмяншэньня ўсіх інвэстыцыяў і будаўніцтва, у выніку чаго зьменшыцца імпар тэхналёгіяў і запатрабаваньне на будаўнічыя матэрыялы. Павысіцца запатрабаваньне на танныя тэкстыльныя прадукты й абутак з Усходняй Азіі.

З свайго боку Беларусь будзе прапанаваць прадукты з нафты, дрэва й прадукты хімічнай індустрыі (угнаеньні, цэмэнт). Дзякуючы добрым сувязям з Расеяй, Беларусь будзе забясьпечана ў сыравіну й зможа выкарыстаць сваю індустрыю — найбольшае значэньне будзе мець тут нафта. Фабрыкі ў Наваполацку й Мозыры — адны з самых лепшых ува ўсім былым СССР і здаецца, што іхні патэнцыял будзе выкарыстаны.

З другога боку, Беларусь можа адыграць вялікую ролю пасрэдніка ў пастаўках для Расеі. Параліж цэнтральнай маскоўскай улады дае вялікія магчымасьці. Роля Беларусі будзе асабліва важнай у выпадку, калі пляны канвэрсіі расейскай валюты акажуцца быць нерэальнымі. Перашкодай можа аказацца ўвядзеньне сваёй валюты ў Рэспубліцы Беларусь — абазначала-б гэта адарваньне ад расейскага рынку, што на сёньняшні дзень не на руку для эканомікі краіны. Трэба мець надзею, што нічога падобнага не адбудзецца. Адначасна варта адзначыць, што ўсе прадугледжваньні наконт далейшага разьвіцьця падзеяў у Беларусі вельмі спэкулятыўныя. Апошнія падзеі паказваюць, што спадзявацца можна літаральна ўсяго, а разумных у галіне постсаветалёгіі пакуль няма.

**ВАЛЯНЬЦІН СЕЛЬВЯСЮК**

# ХРОНІКА БЕЛАРУСКАГА ПАЛІТЫЧНАГА РУХУ (жнівень 1991 — сьнежань 1991)

**6 жніўня**

Дзяржаўная Выбарчая Камісія ў Варшаве зарэгістравала Беларускі Выбарчы Камітэт. Утварылі яго тры арганізацыі беларускай меншасьці ў Польшчы: Беларускае Дэмакратычнае Аб'яднаньне, Беларускае Аб'яднаньне Студэнтаў і Беларускае Літаратурнае Аб'яднаньне „Белавежа".

**11 жніўня**

Адбылася сэсія Галоўнай Рады БДА, у часе якой быў паклікаены Гаспадарчы Гурт. Арганізацыя Гурту даручана была Валяньціну Сельвясюку й Міраславу Цялушэцкаму.

**26 жніўня**

У сувязі з апавяшчэньнем Беларусяй незалежнасьці, арганізацыі, што ўвайшлі ў Беларускі Выбарчы Камітэт выдалі супольную заяву:

*Дзеячы Беларускага Дэмакратычнага Аб'яднаньня, Беларускага Аб'яднаньня Студэнтаў, Беларускага Літаратурнага Аб'яднаньня „Белавежа", якія сабраліся 26 жніўня на свой агульны сход, з пачуцьцямі шчырай радасьці ўспрынялі вестку аб апавяшчэньні незалежнасьці Беларускай Рэспублікай. Гэту падзею ўспрынялі як эпахальную ў гісторыі Беларускага Народу, які зь нявыказнымі цяжкасьцямі, ахвяруючы нязьлічонымі чалавечымі стратамі, дабіваецца дзяржаўнай самастойнасьці. Веквечная справядлівасьць бярэ нарэшце верх!*

*Разам з тым выказваем сваю глыбокую пераконанасьць у тым, што Польскі Народ, як і ўся грамадзянская супольнасьць у нашым рэгіёне, з сымпатыяй ды сардэчнай падтрымкай успрымаюць выхад Беларусі з падлегласьці. Адкрываецца новая старонка добрасуседзкага сужыцьця свабодных са свабоднымі.*

**31 жніўня**

Акруговая Выбарчая Камісія ў Беластоку зарэгістравала акруговы сьпіс кандыдатаў у паслы Беларускага Выбарчага Камітэту ў Выбарчай Акрузе Н-р 25 (Беластоцкае й Сувальскае Ваяводзтвы). Сьпіс падтрымала сваімі подпісамі 20.267 выбаршчыкаў. Кандыдаты:

Стахвюк Віктар
Ляшчынскі Васіль
Сельвясюк Валяньцін
Цялушэцкі Міраслаў
Багроўскі Пятро
Максімюк Аляксандар
Швэд Віктар
Дамброўскі Васіль
Лукошык Уладзімер

Клімюк Анна
Крук Пятро
Ваяводзкая Выбарчая Камісія ў Беластоку зарэгістравала кандыдата ў сэнатары Беларускага Выбарчага Камітэту ў Беластоцкім Ваяводзтве Яна Чыквіна, кандыдатуру якога падтрымала сваімі подпісамі 3.424 выбаршчыкі.

**2 верасьня**

Беларускі Выбарчы Камітэт зарэгістраваў акруговыя сьпісы сваіх кандыдатаў у паслы ў Акруговых Выбарчых Камісіях у Гданьску, Кашаліне, Ольштыне, Седльцах, Варшаве й Вроцлаве.

**8 верасьня**

Адбылася сэсія Галоўнай Рады БДА, ў часе якой абмяркоўвалася справа другога Кангрэсу партыі.

**27-29 верасьня**

Прайшоў сымпозыюм „Белавежа'91". Удзельнікі выдалі супольную заяву:

*27-29 верасьня 1991 году адбыўся чарговы сымпозыюм „Белавежа'91" з удзелам лідэраў Беларускага Народнага Фронту й парлямэнцкай апазыцыі ў Вярхоўным Савеце Беларусі, лідэраў Беларускага Дэмакратычнага Аб'яднаньня ды прадстаўнікоў беларускай эміграцыі зь Нямеччыны, ЗША й Англіі.*

*На сустрэчы абмяркоўваліся пытаньні палітыкі, эканомікі ды нацыянальнага адраджэньня. Зь інфармацыяй выступілі: Валяньцін Голубеў (Менск, „Палітычнае становішча ў Беларусі"), Сакрат Яновіч (Беласток, „Польская палітыка адносна Беларусі"), Вячаслаў Станкевіч (Мюнхэн, „Зьмены палітыкі Захаду адносна Беларусі"), Юры Хадыка (Менск, „Аб разьвіцьці дэмакратыі ў Беларусі"), Уладзімер Заблоцкі (Менск, „Палітычны й эканамічны лад у Беларусі"), Уладзімер Новік (Менск, „Эканамічныя кантакты Беларусі й Беласточчыны"), Васіль Мэльяновіч (ЗША, „Роля эміграцыі ў культурным і эканамічным адраджэньні Бацькаўшчыны").*

*Удзельнікі паразумеліся ў тым, што ў Беларусі склалася якасна новая сытуацыя. Абвешчана незалежнасьць краіны, але яшчэ існуюць старыя структуры, якія спыняюць рэалізацыю самастойнасьці як шляху да дэмакратыі. Існуе неабходнасьць стварэньня новага вобразу Беларусі ў сусьветнай грамадзкай думцы, асабліва-ж у суседніх зь Беларусяй краінах. Былі выпрацаваны прапановы, якія датычаць інфармацыйнай, эканамічнай і кадравай палітыкі з улікам магчымасьцяў беларускай эміграцыі.*

*Абмяркоўвалася пытаньне сувязяў Беласточчыны з Рэспублікай, найперш у эканамічным аспэкце.*

*Удзельнікі выказалі патрэбу ў правядзеньні падобных сустрэчаў і надалей.*

**2 кастрычніка**

Старшыня Галоўнай Рады Беларускага Дэмакратычнага Аб'яднаньня

Сакрат Яновіч і старшыня Рады Згуртаваньня Беларусаў Сьвету „Бацькаўшчына” Яўген Лецка падпісалі пагадненьне аб супрацоўніцтве паміж абедзьвюма арганізацыямі.

**8 кастрычніка**

У сувязі з крытыкай спалучэньня краёвых сьпісаў кандыдатаў Беларускага Выбарчага Камітэту й Краёвага Выбарчага Камітэту Нямецкай Меншасьці, БВК выдаў заяву:

*Беларускі Выбарчы Камітэт зблякаваў краёвы сьпіс кандыдатаў з краёвым сьпісам Выбарчага Камітэту Нямецкай Меншасьці. Беларускі Выбарчы Камітэт і Выбарчы Камітэт Нямецкай Меншасьці, як адзіныя меншасныя камітэты ў маштабе краіны, ідуць да выбараў самастойна. Зблякаваньне краёвых сьпісаў кандыдатаў абодвух камітэтаў павялічвае шанцы беларускіх кандыдатаў на атрыманьне мандатаў у Парлямэньце.*

**7 лістапада**

Беларускае Дэмакратычнае Аб’яднаньне накіравала да жыхароў Беласточчыны падзяку:

*Беларускае Дэмакратычнае Аб’яднаньне шчыра дзякуе ўсім сваім прыхільнікам, якія ахвярна дапамагалі Беларускаму Выбарчаму Камітэту ў ягонай кампаніі, а таксама ўсім выбаршчыкам, якія аддалі свае галасы на сьпіс нашых кандыдатаў ува ўсіх акругах у Польшчы.*

*Мы перакананы, што ў кастрычніцкіх выбарах галасавалі на кандыдатаў нашага камітэту выключна сьвядомыя сваёй нацыянальнай тоеснасьці дзейныя беларусы.*

*Гэта дазваляе нам быць упэўненымі, што нягледзячы на вынік выбараў, усё-такі існуе грамадзкі патэнцыял дзеля рэалізацыі любой беларускай ідэі.*

*Карыстаючыся нагодаю жадаем выбаршчыкам і ўсім беларусам посьпеху ў жыцьці й зьдзяйсьненьня нашых супольных памкненьняў.*

**Галоўная Рада й Краёвая Управа БДА**

**9 лістапада**

Беларускае Дэмакратычнае Аб’яднаньне наведалі кіраўнічыя супрацоўнікі Інстытуту Гэрдэра з Марбургу (правінцыя Гэсэн, Нямеччына).

**11 сьнежня**

Адбылася сэсія Галоўнай Рады БДА. Разглядаліся арганізацыйныя патаньні правядзеньня другога Кангрэсу партыі, быў прыняты тэкст палітычнай справаздачы Галоўнай Рады першай кадэнцыі.

**Апрацаваў**
**АЛЯКСАНДАР МАКСІМЮК**

# БЕЛАРУСКІ ПАЛІТЫЧНЫ РУХ У ЛЮСТЭРКУ ПОЛЬСКАЕ ПРЭСЫ
## (фрагмэнтарны агляд)

Беларуская праблематыка ў польскай прэсе загасьцявала „ў поўным дыяпазоне", пачынаючы адно з 1989 году. Зацікаўленасьць польскіх публіцыстаў „сваімі беларусамі" на Беласточчыне спрычынілі парлямэнцкія выбары 1989, у якіх прынялі ўдзел беларускія кандыдаты Яўген Міровіч і Сакрат Яновіч, а потым усё-ткі дынамічны працэс арганізаваньня беларускага палітычнага руху, першы этап якога закончыўся ўтварэньнем Беларускага Дэмакратычнага Аб'яднаньня 10 лютага 1990 г. Наогул інцыдэнтальныя ў камуністычны пэрыяд публікацыі пра беларусаў (толькі зрэдку перасягаючыя межы этнаграфізму й культурна-асьветніцкай пастулятыўнасьці, якой прытрымлівалася БГКТ) пачалі папаўняцца тэкстамі, у якіх расплывістае паняцьце „беларусы ў Польшчы" спакваля канкрэтызавалася таксама й у сацыяльным, эканамічным і палітычным кантэкстах. З аднаго боку, стымулявала гэту зацікаўленасьць штораз болей стабільная палітычная актыўнасьць БДА (запачаткаваная даволі шырокай, у маштабе рэгіёну, палітычнай акцыяй — удзелам у камунальных выбарах 1990), а з другога — працэс палітычнае дэзінтэграцыі Савецкага Саюзу й пэрспэктыва пераарыентацыі Польшчай свае ўсходняе палітыкі (улік Літвы, Беларусі й Украіны як суб'ектаў у той палітыцы, зь якімі трэба будзе вырашаць, акрамя ўсяго іншага, і пытаньні нацыянальных меншасьцяў па гэты й той бакі мяжы). Удзельнікі беларускага палітычнага руху на Беласточчыне сталіся своеасаблівымі „амбасадарамі беларускай справы", даючы ў польскую прэсу асноўны комплекс інфармацыі як пра становішча беларусаў у Польшчы, так і пра Беларусь увогуле. Ніжэй прадстаўлена падборка з польскае пэрыёдыкі за два апошнія гады, прысьвечаная палітычнаму аспэкту існаваньня беларускай нацыянальнай меншасьці ў Польшчы.

(...) Normalne białoruskie życie narodowe jest możliwe tylko za zgodą Polaków, a Białoruskie Zjednoczenie Demokratyczne działać może tylko w stabilnej, demokratycznej i praworządnej Polsce. Lecz nawet w optymalnych warunkach, do których jeszcze daleko, ćwierćmilionowa grupa etniczna, podcięta u samych korzeni przez kilkadziesiąt lat totalitarnego ucisku, nie jest w stanie wykształcić pełnych form życia narodowego.

Nadzieją przetrwania na dłuższą metę jest dla Białorusinów w Polsce postępujący coraz szybciej proces białorusizacji BSRR, zmiana jej z sowieckiej atrapy w białoruskie państwo narodowe, nawet jeśli pozostanie w jakimś związku z Rosją. W interesie Białorusinów w Polsce leżą dobrosąsiedzkie stosunki Polski z odrodzoną Białorusią, która wkrótce wyłoni się z odmętów pierestrojki. Jest to także interes półmilionowej Polonii na Białorusi. Działanie na rzecz ułożenia takich stosunków jest właściwie jedynym strategicznym celem BZD. (...)

BZD jest partią wyborczą. Zdobycie przez Białorusinów jednego miejsca w Sejmie jest, w wyborach proporcjonalnych, zadaniem realnym. Poseł białoruski powinien wykorzystywać trybunę sejmową do przedstawiania spraw swych wyborców oraz popierać każdą inicjatywę na rzecz rozszerzania uprawnień samorządów terytorialnych. BZD nie powinno wchodzić na forum ogólnopolskim, parlamentarnym i pozaparlamentarnym, w żadne związki typu przedwojennego bloku mniejszości narodowych. Blok taki nic nie dał przed wojną, tym bardziej teraz. (...)

BZD jest partią gminną. Jej głównym polem działania będą wybory samorządowe. Przy większościowej ordynacji wyborczej pozostaje dążyć do zwycięstwa (wraz z innymi organizacjami białoruskimi) w gminach z większością białoruską i uzyskania reprezentacji we władzach samorządowych Białegostoku i województwa. Warunkiem powodzenia BZD jest oczywiście zdobycie głosów ludności białoruskiej. Nie będzie to łatwe wobec zagubienia Białorusinów w nowej sytuacji politycznej. BZD jest w tym środowisku ruchem nowym i minie trochę czasu, nim jego idee się upowszechnią.

Większość działaczy Zjednoczenia to ludzie młodzi i zdeterminowani. Wygramy wcześniej czy później.

**OLEG ŁATYSZONEK,**
**Białoruskie Zjednoczenie Demokratyczne — strategia i taktyka partii mniejszościowej**
*(Tygodnik Białostocki, Nr 22, 14. 04. 1990 )*

— *Jaki jest wasz program?*

— Bierzemy pod uwagę przede wszystkim to, że białoruska mniejszość narodowa zamieszkuje pewien określony region; to nie jest diaspora, to jest po prostu kawałek Polski, w którym mówi się po białorusku. Ten region, nazywany często w publicystyce ścianą wschodnią, jest czarną dziurą na gospodarczej mapie Polski, jest najbardziej zaniedbany. Mam na myśli okola Puszczy Białowieskiej i częściowo Knyszyńskiej z przyległymi gminami.

— *„Ścianę Wschodnią" zamieszkują nie tylko Białorusini...*

— Są okolice, w których nie znajdzie pan ani jednego Polaka. Nie chcę jednak powiedzieć, że chcemy się separować. Szukamy wszędzie sojuszników. Statut Zjednoczenia nie przewiduje ograniczeń narodowościowych — członkiem naszego ruchu może zostać każdy obywatel Polski, i to nawet bez względu na miejsce zamieszkania. Ale doszliśmy do wniosku, że bez własnego wysiłku, bez zorganizowanych starań Białorusinów, nie uda się nam doprowadzić do rozwoju tego regionu, ponieważ siły, które są istotne na politycznej mapie kraju, zawsze naszymi problemami będą zainteresowane tylko wyrywkowo. Natomiast dla nas zawsze będą to sprawy najważniejsze; społeczeństwo polskie powinno jednak zrozumieć, że kiedy walczymy z ekonomicznym upośledzeniem naszego regionu, walczymy tym samym o rozwój jakiegoś fragmentu Polski.

— *Czego „ścianie wschodniej" najbardziej brakuje?*

— Przede wszystkim — mądrej polityki wobec rolnictwa. Rolnictwo jest szansą tego regionu, ze względów ekologicznych szansą wręcz olbrzymią. Są to ziemie stosunkowo najmniej w Polsce zanieczyszczone, mamy więc sposobność produkowania „zdrowej żywności", która na rynkach międzynarodowych osiąga wysokie ceny. Tymczasem rolnictwo jest tutaj ciągle w stanie ruiny. Uprawianie ziemi jest teraz zajęciem bardzo trudnym, wymagającym wręcz wyrzeczeń. Na te trudy, na ten prymitywizm cywilizacyjny szcze-

gólnie nieodporne okazują się młode kobiety; opuszczają wieś, wyjeżdżają do miasta. Białystok jest chory na kompleks Paryża, mieszka w nim już co drugi mieszkaniec regionu, na stu kawalerów przypada w nim 130 dziewcząt. Natomiast na wsi na jedną niezamężną kobietę przypada po kilku nieżonatych rolników; to już jest wręcz naruszenie równowagi biologicznej. (...)

*— We władzach partyjnych i organach bezpieczeństwa województwa białostockiego było sporo Białorusinów, białostoczanie mówili nawet o „mafii białoruskiej". Pamięta się również Komunistyczną Partię Zachodniej Białorusi, list Białorusinów do Stalina z prośbą o przyłączenie wschodnich ziem polskich do ZSRR, tryumfalne bramy, jakimi ludność białoruska witała wkraczającą we wrześniu 1939 r. Armię Czerwoną...*

— Tak, to prawda — ale kto skomunizował Białorusinów? Zrobiła to przedwojenna Polska. Skomunizowała ich nie uznając tego narodu. Pod koniec lat trzydziestych władze polskie polikwidowały dosłownie wszystkie organizacje białoruskie, nawet katolickie. Księży, którzy uważali się za Białorusinów, wywieziono w głąb Polski, za linię Wisły. Jedynie ruch komunistyczny uznawał istnienie narodu białoruskiego i popierał nasze postulaty. Jak się nadzieje wiązane z komunizmem spełniły — to już dzisiaj wszyscy wiemy.

Wracając natomiast do sprawy „mafii białoruskiej" — kiedy tworzyła się w 1944 roku nowa władza na Białostocczyźnie, była ona znacznie bardziej popierana przez element białoruski, sympatyzujący z komunizmem, niż przez element polski. Pierwsze organizacje partyjne powstawały na terenach zamieszkałych przez Białorusinów; na terenach polskich natomiast — dopiero w 1948, 1949 roku. Nic więc dziwnego, że we władzach wojewódzkich zaczęli dominować ludzie pochodzenia białoruskiego. Inna rzecz, że ci tzw. Białorusini, z małymi wyjątkami, na skutek niskiego poziomu świadomości narodowej i myślenia kategoriami klasowymi, zatajali swoje białoruskie pochodzenie i starali się być bardziej polscy niż Polacy. Muszę powiedzieć, że jako Białorusin doznałem wielu krzywd od tych ludzi. Wyrzucono mnie z pracy za nacjonalizm białoruski, wyrzucono mnie również z partii. Ten mój nacjonalizm polegać miał na tym, że uważałem się za Białorusina, a tymczasem za nacjonalistę białoruskiego uznawano każdego, kto nie chciał być Polakiem. (...) Tok rozumowania tych ludzi był taki: ponieważ Polacy są chorzy na kompleks antyruski, więc nie należy ich drażnić, trzeba zlikwidować cały ruch białoruski, bo zbudowanie socjalizmu w Polsce jest rzeczą ważniejszą aniżeli utrzymanie się mniejszości białoruskiej. (...)

*— Czy sądzi Pan, że kres sporów polsko-białoruskich jest już bliski?*

— Nacjonalizmy są dziećmi biurokracji, rodzą się, kiedy dochodzą do głosu instytucje i urzędy. Sądzę, że kiedy ekonomia i pieniądz wysuną się na plan pierwszy, temperatura narodowościowych sporów spadnie. Przykładem — Stany Zjednoczone, gdzie nie jest ważna narodowość obywatela, ale to, co po prostu człowiek potrafi.

**Rozmowa z SOKRATEM JANOWICZEM:**
**Nacjonalizmy są dziećmi biurokracji**
*(Wokanda, 15.04.1990)*

*— Co to znaczy dziś: poczuć się Białorusinem?*

— To przede wszystkim sprawa prawosławnej wiary i języka. Ale zdarza się coraz częściej, szczególnie w środowiskach miejskich, że młodzi ludzie, wychowani wprawdzie w wierze prawosławnej, ale w kulturze polskiej, nie potrafią nawet rozumieć po białorusku. Dopiero pod wpływem lektur czy przemyśleń, wracają do swojej białoruskości, uczą się także języka. Natomiast proces polonizacji nie postępuje tak szybko, jakby się zdawało. Ja trochę złośliwie mówię, że główną zasługę w powstrzymywaniu tego procesu należy

przypisać polskiemu szowinizmowi. Istnieją jednak spore uprzedzenia po obu stronach. Społeczność polska i białoruska funkcjonują jakby obok, a wzajemne kontakty występują tylko na płaszczyźnie stosunków koniecznych. (...)

— *Czyli z ZSRR się nie identyfikujecie?*

— Ta identyfikacja jest u nas dwojaka. My się utożsamiamy tylko z Republiką Białoruską na płaszczyźnie kulturowej. Mamy świadomość, iż stanowimy fragment jednego narodu. Natomiast pod względem gospodarczo-cywilizacyjnym nie ma żadnej identyfikacji. Jeździmy tam przecież i widzimy, że oni po prostu o wiele gorzej żyją, aniżeli my. Te wszystkie legendy, że dążymy do przyłączenia do ZSRR, to tylko polskie legendy, które wskazują na nieznajomość psychiki białoruskiej. To taki polski punkt widzenia. Bo gdyby Polak był w naszej sytuacji, to prawdopodobnie domagałby się przyłączenia. U nas zaś nikt tego nie pragnie, nikt nie chce przyłączać się „od lepszego" „do gorszego". Jest natomiast prawdą, że stopień identyfikacji z Białoruską Republiką zwiększa się wraz z zachodzącymi tam zmianami. Nasza narodowa republika z tworu skolonizowanego, zdominowanego przez imperializm rosyjsko-radziecki, zaczyna przekształcać się w organizm coraz bardziej samodzielny. (...)

**Rozmowa**
**z SOKRATEM JANOWICZEM:**
**Trzecia siła** *(itd, 06.05.1990)*

(...)

— *Czy Białoruskie Zjednoczenie Demokratyczne szuka oparcia w Cerkwi prawosławnej?*

— Uważamy, że Cerkiew prawosławna na terenie Białostockiego Kraju, jak nazywamy nasz region, jest naszą najbardziej elementarną ostoją. Bez względu na stosunek Cerkwi do nas my ją popieramy.

— *A jaki jest ten stosunek?*

— Raczej obojętny. Ale my ją popieramy nie tylko dlatego, że prawie wszyscy działacze Zjednoczenia są prawosławnymi i byłoby co najmniej dziwne, gdyby prawosławny występował przeciw prawosławiu. Popieramy Cerkiew także ze względów społecznych, ponieważ zdajemy sobie sprawę, że białoruska mniejszość narodowa jako zjawisko kulturowo-narodowe dotrwała do naszych dni głównie dzięki Cerkwi prawosławnej. Ta Cerkiew dawała poczucie swojskości, poczucie odrębności. Nie oznacza to wszkże, że nie chcemy dążyć do tworzenia Cerkwi białoruskiej. Mamy nawet zamiar wybudowania własnej świątyni, która byłaby cerkwią białoruską.

(...)

**Rozmowa z SOKRATEM JANOWICZEM:**
**Najmłodszy naród Europy**
*(Przegląd Powszechny, Nr 10, październik 1990)*

*— Poseł Cimoszewicz ujawnił, że funkcjonariusze MSZ proponują: zaprzestać finansowania działalności BTSK, a to w związku z sygnałami, że BTSK buduje za państwowe pieniądze struktury partyjne Socjaldemokracji RP oraz ze względu na informacje o sojuszu wyborczym Cimoszewicz — Stachwiuk.*

— Białoruskie Towarzystwo Społeczno-Kulturalne nie buduje niczyich struktur partyjnych. Ma ono skromne środki, które wydaje na działalność określoną statutowo, a każdy wydatek, jak sądzę, ma swą dokumentację. Czy to tak trudno sprawdzić?

Budżet BTSK jest skromny. Na przykład: organizatorom młodzieżowego konkursu recytatorskiego starczyło złotówek na zakup dyplomów. Zabrakło ich na zwrot kosztów przejazdu. Tak więc o finansowaniu innych przedsięwzięć niż kulturalne i oświatowe, mowy być nie może. Natomiast nie wykluczam, iż niektórzy członkowie BTSK należą do SdRP. Ale to ich sprawa.

*— Proszę pana, eksperci z MSZ zarzucają radnym z Hajnówki, że ci utworzyli związek gmin wschodnich. „W związku tym dominuje lokalna białoruska nomenklatura z okresu komunistycznego„. O co chodzi?*

— Jest to kolejne urojenie. Przypuszczam, że radni z Hajnówki dopiero teraz, z gazet dowiedzieli się, że należą do nomenklatury, że spiskują na wschodnich rubieżach...

Związek gmin wschodnich — to inicjatywa Białoruskiego Zjednoczenia Demokratycznego. Chcieliśmy powołać wspólnotę (chodzi o siły i środki finansowe) dla rozwiązywania różnych problemów na terenach mocno zaniedbanych, potocznie nazywanych „ścianą wschodnią". Nie ma tam pożądanej infrastruktury. Pomyśleliśmy, że połączonymi siłami kilku lub kilkunastu gmin można by uruchomić przetwórnie płodów rolnych.

Kolejna idea tego związku — to ochrona środowiska naturalnego. Przyjął się mit, że tu, w Białostockiem powietrze jest czyste, a rzeki toczą krystaliczne wody. Prawda jest inna: tak zwane zielone płuca Polski ulegają różnym procesom niszczycielskim, ich stan jest opłakany. Troska o czyste środowisko i zdrową żywność musi zajmować także samorządy terytorialne.

Albo taka sprawa: rozwija się tu niemrawa przygraniczna wymiana towarów. Handel ten można rozwinąć gromadząc, na przykład, nie jeden wagon zboża, mięsa, ziemniaków, lecz całe pociągi. W zamian można by sprowadzać traktory, telewizory, pralki, lodówki.

I z tych pomysłów, z ewentualnego związku (albo współpracy) gmin wschodnich szybko zrobiono aferę z nadbudową polityczną. W rezultacie niektórzy działacze terenowi, obawiając się posądzenia o irredentę i działalność szkodliwą dla Polski, zrezygnowali ze współdziałania między gminami.

Bądźmy sprawiedliwi. Widać na tym przykładzie i nieufność wobec Białorusinów, i strach tkwiący w nich samych. Strach przed działaniem samodzielnym, bez nakazu lub przyzwolenia władzy. Ale nie wolno zapominać, że nabrzmiałych problemów gospodarczych naszego regionu nie można rozwiązać bez udziału jego mieszkańców. Dlatego musi tym ludziom sprzyjać prawo i życzliwość.

*— A co pan powie na tę diagnozę z raportu MSZ: „Jako problem wagi najwyższej jawi się pozytywne rozwiązanie kwestii autentycznego przywództwa politycznego wśród Białorusinów w Polsce".*

— Zbyteczna troska. Mówiłem, że mamy kilka organizacji, te zaś własnych liderów, wśród nich sporo młodych. Zatem środowisko białoruskie nie żyje w chaosie i nie czeka na Mesjasza. (...)

**Rozmowa z EUGENIUSZEM MIRONOWICZEM:**
**„Raport stworzyli ignoranci albo ludzie złej woli..."**
*(Chłopska droga, 27.01.1991)*

*— Jakie miejsce i szanse widzi Pan dla BZD, które nawiązuje do centrowych, a nie lewicowych tradycji politycznych?*

— Rzeczywiście BZD nawiązuje do przedwojennego Białoruskiego Związku Włościańskiego, który w uproszczeniu można by nazwać prawosławną chadecją, i Chrześcijańskiej Demokracji, reprezentującej nurt katolicki. Program nasz uwzględnia współczesną sytuację Białostocczyzny i odnosi się do teraźniejszych problemów mieszkającej tu społeczności białoruskiej. Zdajemy sobie oczywiście sprawę z tego, że sympatie Białorusinów są bardziej lewicowe niż program naszej partii. Podejmujemy próby zmiany tej orientacji, wszystko we współczesnym świecie ewoluuje w stronę struktur ekonomicznych dalekich od charakterystycznych dla lewicy. Nie od środowiska białoruskiego będzie zależało to, co się stanie w całym kraju. Dlatego też Białorusinom powinno zależeć na dostosowaniu się do ogólnej tendencji politycznej. Korzystać winniśmy z dogodnego systemu prawnego i politycznego rozwijając własną gospodarkę, kulturę — zaczynając przede wszystkim od gospodarki. (...)

*—Po co jest potrzebny mniejszości białoruskiej poseł w polskim parlamencie?*

— Po to, by ktoś mógł stale zajmować się problemami, którymi żyje społeczność białoruska — prezentować je w parlamencie. Tylko parlament może uchwalić taki system prawny, który by zapewniał realizację praw mniejszości w ramach instytucjonalnych. Nie chcemy być grupą wyizolowaną spośród innych grup — chcemy korzystać z tych wszystkich praw, z jakich korzystają inni. Oczywiście program Białoruskiego Zjednoczenia Demokratycznego nie będzie mógł być realizowany w przyszłym parlamencie ze względu na skromność ewentualnej naszej reprezentacji. Program nasz jest zresztą dostosowany do potrzeb regionu białostockiego i nastawiony na rozwiązywanie problemów mniejszości białoruskiej tu zamieszkałej. Skierowany jest i może być realizowany przez samorządy gminne i organizacje społeczne Białorusinów. Ale oczywiście jako partia polityczna mamy własne zdanie w sprawie systemu politycznego w Polsce, ładu gospodarczego, polityki społecznej itd. Opowiadamy się za demokracją parlamentarną z dominacją parlamentu. W sprawach gospodarczych nasze poglądy zbliżone są do programów innych partii centrowych, jak Unia Demokratyczna, ROAD czy niekiedy nawet Porozumienie Centrum.

**Rozmowa z EUGENIUSZEM MIRONOWICZEM:**
**Partnerstwo** (*Plus, 09.03-30.03.1991*)

(...) Białorusini. Gdy słyszę, jak byli oni krzywdzeni w PRL, to wyć mi się chce. Cała administracja, milicja i SB, wszystkie ogniwa PZPR-u były nimi obsadzone. I to nie na podrzędnych stanowiskach! Najprymitywniejsze, najbrutalniejsze, ale i najpewniejsze oddziały ZOMO rekrutowały się z chłopców z naszej Zachodniej Białorusi. Mniejszość ta miała swoje szkoły podstawowe i średnie z białoruskim językiem nauczania. (Toż w swojej sowieckiej republice tego nie mieli! Tam język białoruski uznawany był za dialekt i uczono tylko po rosyjsku!) Mieli pismo w swojej ojczystej mowie i Towarzystwo Kulturalne. Na rocznicowych, czerwonych akademiach przygrywał i przyśpiewywał im i nie tylko im, ale nam wszystkim, zespół „Bieriozka".

Gdzieżby się mógł rozwinąć, pochodzący z Krynek, tak wybitny talent literacki Sokrata Janowicza, jak nie w Białymstoku pod opiekuńczym skrzydłem Arkaszki Łaszewicza? Ten piewca białoruski, nie przez wszystkich zresztą swoich ziomków lubiany, znany daleko poza rogatkami miasta, któremu rzekomo komuna kneblowała usta, mógł jednak publicz-

nie wywodzić, że Tadeusz Kościuszko to jego rodak, a nie Polak, i że nazwisko Naczelnika wywodzi się od zdrobniałego, białoruskiego imienia „Kostia".

Biedni, skrzywdzeni i poniżeni Białorusini. Ha, ha, ha! Przepraszam, będę kończył, bo rzygać mi się chce. (...)

**KAZIMIERZ W. NIEMOTKO,**
**Skrzywdzeni i poniżeni**
*(Kurier Podlaski, 19-20-21.10.1990)*

(...) Bezpodstawne oskarżenia wysunięte przez niektórych polityków mińskich o rzekome prześladowanie czy dyskryminację mniejszości białoruskiej bolą nas i czynią nam krzywdę, podejrzewanie zaś Polaków o fanatyzm religijny i celowe podpalanie cerkwi prawosławnych na Białostocczyźnie dopełniają miary w insynuacji, kłamstwie i jednostronności. (...) Ileż to polityków przyjeżdża na Białostocczyznę po to, by spotkać się z wąską grupą pseudoreprezentantów Białorusinów? Ta mała grupka sobie przypisuje przywilej reprezentowania mniejszości. Nie ma spotkań i rozmów z prawosławnymi, którzy nie uważają się za Białorusinów, którzy nie marzą o zwadach z polską większością, ani o przesuwaniu granicy z Białorusinami, którzy są z reguły z nami w dobrym i złym — również w Solidarności, również w komitetach obywatelskich, w radach miast i gmin. Rozmawia się natomiast i hołubi do serca grupkę krzykaczy i nacjonalistów, dla których każda, nawet najbardziej wątpliwa okazja jest dobra, by pisać protesty, wszczynać krzyk, że prześladuje się Białorusinów.

Białorusini i prawosławni, a takich jest jak sądzę większość, wcale nie życzą sobie by reprezentowali ich akurat ci politycy prowadzący do eskalacji konfliktów. Ta grupka polityków, pozbawiona oparcia w społeczności, utraciłaby wszelkie znaczenie, gdyby nie oparcie w salonach warszawskich.

To nie ja, na dobrą sprawę, powinienem protestować w imieniu społeczności Białostocczyzny, zarówno polskiej, jak białoruskiej i ukraińskiej, katolickiej jak i prawosławnej. To kilku polityków, spotykających się potajemnie z politykami z Mińska, przy ignorowaniu władz województwa i interesów państwa polskiego, przy ignorowaniu dobrych obyczajów — powinno składać oświadczenia, przepraszając braci z Mińska, że wprowadzili ich w błąd. Przeprosić mniejszości zamieszkujące na Podlasiu, że lekkomyślnie wystawili ich interesy na szwank. Przeprosić większość za fałszywe oskarżenia, za niepotrzebne nerwy. Ci politycy — wolą jednak milczeć. Kto wie, może są zadowoleni z siebie, bo niewykluczone, że taki obrót spraw z Białorusią jest przez nich upragniony. (...)

**Z wystąpienia sejmowego**
**posła Ziemi Białostockiej KRZYSZTOFA PUTRY**
*( Kurier Poranny, 30.10.1990 )*

(...) Sytuacja zmieniła się diametralnie jesienią 1939 r., po opanowaniu woj. białostockiego przez Związek Sowiecki. Dekretem Rady Najwyższej, po fikcyjnych wyborach, zostało ono wraz z całą tzw. Zachodnią Białorusią, a więc także i ukraińskim Polesiem brzesko-pińskim, włączone do Sowieckiej Białorusi. Następstwem tego faktu było m.in. wprowadzenie do szkół języka białoruskiego, częściowo nawet jako wykładowego, oraz powstanie

prasy białoruskojęzycznej — np. w Bielsku Podlaskim wydawano w wersji białoruskiej i rosyjskiej gazetę „Bielskaja Prawda". Szkolnictwo białoruskie przedłużało swoje istnienie też w okresie okupacji hitlerowskiej — Niemcy nawet popierali jego rozwój chcąc osłabić wpływy polskie.

Powyższe fakty doprowadziły do utrwalenia się w opinii potocznej przekonania, iż pomiędzy Narwią a Bugiem mieszkają nie Ukraińcy lecz Białorusini. Praktyka powojennych władz komunistycznych w pełni opierała się na tej opinii, jednocześnie ją umacniając. Na obszarze tym, oprócz szkół podstawowych, powstały dwa licea ogólnokształcące z częściowym wykładaniem przedmiotów w języku białoruskim, od 1956 r. działa Białoruskie Towarzystwo Społeczno-Kulturalne, kolportowana jest białoruskojęzyczna „Niwa". (...)

Plony tego propagandowego zatrutego siewu, zbierają obecnie działacze białoruscy — zarówno ze starego BTSK jak też i nowo powstałego Białoruskiego Zjednoczenia Demokratycznego. To właśnie ludność ukraińska nad Bugiem i Narwią, której systematycznie wmówiono „białoruskość" jest w obecnej chwili bazą dla działania obu organizacji. To tutaj znajdują się prawie wszystkie szkoły podstawowe oraz licea z nauką języka białoruskiego, to tutaj działają koła BTSK i tu białoruska „Niwa" ma zdecydowaną większość swoich czytelników. (...)

**JERZY HAWRYLUK,**
**Odrodzenie**( *Kurier Poranny, 2-3-4.11.1990* )

„Patrioci białoruscy" i Sokrat Janowicz zmierzają do ponownej ewangelizacji Białorusi i Białorusinów, czyli przeciągnięcia prawosławnych na unityzm. Na początek.

( *Tygodnik Podlaski, Nr 3, 1991*)

**Падрыхтаваў**
**ЯН МАКСІМЮК**

# БЕЛАРУСЫ БЕЛАСТОЧЧЫНЫ Ў ПАРЛЯМЭНЦКІХ ВЫБАРАХ У МІЖВАЕННАЙ ПОЛЬШЧЫ

Грамадзкая дзейнасьць беларусаў Беласточчыны асабліва выяўлялася ў часе выбараў у найвышэйшыя органы Польскай Рэчыпаспалітай, якія адбыліся ў 1922, 1928 і 1930 гадох. Выбары гэтыя сталі вэрыфікацыяй вялікасьці й сілы беларускага нацыянальнага руху ў варунках новае дзяржаўнасьці, Пасьля сумных досьведаў у студзені 1922, зьвязаных з байкотам выбараў у эфэмэрычны віленскі сойм (г.зв. Цэнтральнай Літвы), вынікам якога, між іншага, было далучэньне Віленшчыны да Польшчы, беларускія кіраўнічыя кругі пастанавілі, каб у стабілізаванай ужо трохі палітычнай сытуацыі ўзяць удзел у агульнапольскіх выбарах. Рашэньне такое прынялі прадстаўнікі палітычных партыяў і грамадзкіх арганізацыяў, згуртаваных у Беларускім Нацыянальным Камітэце — неафіцыйным прадстаўніцтве беларусаў, якое мела сваю сядзібу ў Вільні. І таму ў верасьні 1922 пакліканы быў Беларускі Цэнтральны Выбарчы Камітэт, кіраўнічую функцыю ў якім выконваў Антон Луцкевіч. У склад камітэту ўваходзілі дзеячы розных палітычных арыентацыяў: Фабіян Ярэміч, Міхал Кахановіч, Язэп Лагіновіч, ксёндз Адам Станкевіч, Браніслаў Тарашкевіч.

Ува ўсходніх паветах тагачаснага Беластоцкага Ваяводзтва, значыць: беластоцкім, бельскім, сакольскім, аўгустоўскім, гродзенскім і валкавыскім, кампактнай масай у якіх жыло беларускае насельніцтва, значныя ўплывы мелі сілы зьвязаныя зь віленскім БНК. Пасьля ўтварэньня БЦВК, на абшары згаданых паветаў пачалі ўзьнікаць Беларускія Акруговыя Выбарчыя Камітэты. Адначасна-ж, у большых вёсках і мястэчках узьнікалі лякальныя камітэты, у навакольлі якіх дзейнічалі іхнія мужы даверу. Праграма выбарчых камітэтаў была адна й тая-ж для ўсяе Заходняй Беларусі, а ў гэтым і для Усходняй Беласточчыны, бо аднолькавымі былі праблемы й неабходнасьць цэласнага іх вырашэньня для насельніцтва, што жыло пад Бельскам Падляскім і пад Вільняй, у Навагрудку ці недзе на Палесьсі. Праграма закранала жыцьцёвыя патрэбы шырокіх масаў беларускага грамадзтва й зьмяшчалася ў трох пунктах:

1) зямля сялянам бяз выкупу,
2) школа ў роднай мове,
3) тэрытарыяльная аўтаномія для Заходняй Беларусі.

Выбарчая ардынацыя, ставячы на прывілеяваныя пазыцыі тыя палітычныя групоўкі, якія атрымалі-б найбольшую лічбу галасоў, выклікала неабходнасьць паразуменьня паміж Беларускім Цэнтральным Выбарчым Камітэтам і жыдоўскімі арганізацыямі ды стварэньня супольнага Блёку Нацыянальных Меншасьцяў. У міжваенным пэрыядзе жыды складалі даволі вялікі працэнт насельніцтва Заходняй Беларусі й таму іхнія галасы вырашалі пра канчатковы вынік выбараў. Блёк Нацыянальных Меншасьцяў у павасобных акругах паставіў

кандыдатаў у Сойм і Сэнат на васобных сьпісах Н-р 16.

Беластоцкае Ваяводзтва было падзелена на тры выбарчыя акругі: Н-р 4 — ахоплівала бельскі, белавескі, астроўскі й высока-мазавецкі паветы (у вапошніх двух перад усім жылі палякі), Н-р 5 — беластоцкі, сакольскі й валкавыскі паветы, Н-р 6 — аўгустоўскі й сувальскі (з польскай большасьцяй) ды гродзенскі паветы. У кожнай гэтай акрузе беларускія акруговыя камітэты паставілі на сьпісе Н-р 16 сваіх кандыдатаў.

У выбарах у Сойм і Сэнат за беларускія галасы змагаліся таксама ўсялякія польскія групоўкі. У прыватнасьці-ж, зь вельмі радыкальнымі лёзунгамі выступалі ў Заходняй Беларусі Польская Сялянская Партыя „Вызваленьне" й Польская Сацыялістычная Партыя. Сваю передвыбарчую прапаганду вялі яны часта ў беларускай мове (прэса, лістоўкі) ды несарыентаванае сялянства ўспрымала іх як беларускія групоўкі. З прычыны такое падступнае палітыкі сілы зьвязаныя зь Беларускімі Выбарчымі Камітэтамі вялі зь імі вострую барацьбу.

Трэба адзначыць, што ў той час беларусы апынуліся ў цалком новай сытуацыі. Тыя, якія ў 1919-22 гадох вярталіся зь бежанства не ўсьведамлялі сабе варункаў, якія ўзьніклі ў новай польскай дзяржаве. Выкліканыя ваенным спусташэньнем гаспадарчыя цяжкасьці, польскамоўная адміністрацыя (пры няведаньні насельніцтвам польскае мовы) ды абмежаваньне ўплываў Праваслаўнай Царквы паставілі беларускае насельніцтва, якое памятала не такія благія царскія часы, у цяжкае становішча. Болей радыкальная яго частка, якая была ў сфэры ўзьдзеяньня Беларускай Партыі Сацыялістаў-Рэвалюцыянераў (эсэраў ), кінулася нават у збройную барацьбу за правы беларускага народу, ствараючы партызанцкія фармацыі, якія дзейнічалі ў Белавескай Пушчы й на Гродзеншчыне.

Важным элемэнтам дзейнасьці лякальных камітэтаў была перадвыбарчая кампанія, мэтаю якое было пабуджэньне як найбольшай групы людзей да актыўнасьці ды прэзэнтацыя для бальшыні грамадзянаў свае праграмы. Сілы згуртаваныя ў БЦВК выпускалі сваю прэсу, лістоўкі, адозвы, якія распаўсюджваліся таксама ўва Усходняй Беласточчыне. На будучы электарат найбольш аднак узьдзеілі мітынгі з удзелам кандыдатаў у паслы ды прадстаўнікоў лякальных камітэтаў. Варта тут прывесьці вытрымку зь лісту А. Рошчанкі з Кляшчэляў, які быў надрукаваны ў віленскім часопісе „Беларускі звон" ад 1.XI.1922 г.:

*У м. Клешчалі 23 кастрычніка адбыўся вялікі мітынг. Народу было шмат. Выступалі аратары ад розных партыяў, але народ усё чакаў сваіх, беларускіх, бо хадзілі чуткі, што прыехалі на мітынг. Урэшце выступілі нашыя аратары гр. Кахановіч і Вішэнка. Пасьля іх прамоў народ бурна стаў вітаць прадстаўнікоў сьпіска Н-р 16, а як сталі раздаваць беларускую літэратуру, дык з боем і плачам дабіваліся, каб дастаць. Нават ворагам прышлося праканацца, што жыве й магутнее Беларусь!*

Ажыўленую дзейнасьць выбарчых камітэтаў прыхільна ўспрыняла значная частка беларускага грамадзтва, тым больш, што камітэты атрымалі падтрымку з боку ерархіі Праваслаўнай Царквы, а ў гэтым і ад япіскапа беластоцкага й гродзенскага Уладзімера (Ціханіцкага), якога ў канцы 1922 году польская адміністрацыя адсунула ад япіскапства. Зусім наадварот паводзілі сябе польскія каталіцкія ксяндзы. У сваёй агітацыі выступалі яны супроць Блёку Нацыянальных Меншасьцяў, сьцьвярджаючы, што сьпіс Н-р 16 — гэта „жыдоўскі сьпіс". Адначасна польскія ксяндзы маральна націскалі на вернікаў-беларусаў, запалохваючы непаслухмяных адмовай у падставовых паслугах: шлюб, споведзь, і т.п.

Выбары ў Сойм былі вызначаны на 5 лістапада 1922 году, а ў Сэнат тыдзень пазьней. Іх вынік на Беласточчыне аказаўся быць карысным для беларусаў. У выбарчай акрузе Н-р 4 паслом стаў Шымон Якаўюк, нар. у 1881 г. у Дубінах каля Гайнаўкі. За сваю незалежніцкую дзейнасьць быў зьняволены ў 1919 годзе ў беластоцкім канцэнтрацыйным лягеры. З акругі Н-р 5 у Сойм быў выбраны Уладзімер Каліноўскі, нар. у 1889 г. у Баранах берасьцейскага павету. Закончыў ён юрыдычны факультэт ува унівэрсытэце ў Пецярбурзе. У парлямэньце засядаў да чэрвеня 1923 году, калі-то ягоны мандат быў скасаваны з тае прычыны, што нібыта ня меў ён польскага грамадзянства. У выбарчай акрузе Н-р 6 паслом стаў ведамы эсэравец Сяргей Баранаў, адзін зь віцэ-старшыняў Беларускага Клюбу ў Сойме.

Выбары ў Сэнат, што прайшлі 12 лістапада, ня былі ўжо такім посьпехам, як вынік галасаваньня ў Сойм. Абодва беларускія кандыдаты зь сьпісу Блёку Нацыянальных Меншасьцяў: Павал Катовіч зь беластоцкага павету ды Павал Гаворскі, „сын селяніна зь бельскага павету з вышэйшай адукацыяй", не прайшлі ў галасаваньні. Тое, што не прайшоў ніхто зь беларусаў выклікана было, між іншага, меншаю прапагандай выбараў у Сэнат. Агулам у Беластоцкім Ваяводзтве ў Сэнат галасавала каля 60 % усіх, якія карысталіся выбарчым правам; у Сойм-жа — звыш 69 %. На дадатак фрэквэнцыя ўва ўсходніх паветах была ніжэйшай, чым у заходніх. Прыкладна ў белавескім павеце галасавала трохі па-над 14 %, што ставіла яго на вапошнім месцы ў краіне. У часе выбараў у Сойм было падобна-ж — ува ўсходніх паветах менш грамадзянаў аддало свае галасы, але ў пераважнай бальшыні гмінаў звыш паловы выказалася за кандыдатамі беларускіх камітэтаў. Прычыны нявысокае фрэквэнцыі ў населеных беларусамі паветах былі падобныя: супрацьдзеяньне адміністрацыі й паліцыі, якія нярэдка карысталіся рэпрэсіяй ды вялікая адлегласьць павасобных вёсак ад пунктаў галасаваньня, што рабіла немагчымым удзел вялікай лічбы грамадзянаў у выбарах.

У Сойме, нягледзячы на розьніцу ў палітычных поглядах, 12 беларускіх паслоў выбраных у паўночна-ўсходніх ваяводзтвах тагачаснай Польшчы стварыла супольны парлямэнцкі клюб — Беларускі Клюб. Трох паслоў, якія прадстаўлялі беларусаў, у Сойме засядала вельмі коратка. У траўні 1923 г. Акруговы Суд у Беластоку засудзіў Сяргея Баранава на 6 гадоў турмы за „арганізацыю паўстаньня супроць Польскае Дзяржавы". Другі галоўны абвінавачаны, пасол Шымон

Якаўюк, быў тады адпушчаны, але ў сьнежні Апэляцыйны Суд у Варшаве прызнаў яго вінаватым і ён, каб пазьбегчы лёсу зьняволенага Баранава, нелегальна выехаў у Ковенскую Літву, дзе працягваў дзейнасьць на культурна-асьветніцкай ніве. Уладзімера Каліноўскага таксама пазбавілі пасольскага мандату, але на ягонае месца ўвайшоў Павал Валошын — адзін з заснавальнікаў Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады.

Звыш пяцігадовы пэрыяд да наступных парлямэнцкіх выбараў, якія прайшлі ў 1928 годзе, быў часам зьмены палітычнага ўкладу ўва Усходняй Беласточчыне, як і ўва ўсёй Заходняй Беларусі. У канцы 1923 году была створана Камуністычная Партыя Заходняй Беларусі. Перахапіла яна ўплывы партыі Сацыялістаў-Рэвалюцыянераў, бо ў палове 1924 году гродзенская акруга гэтай арганізацыі распусьцілася, а былым сябрам рэкамэндавалася ўступаць у шэрагі камуністаў. Найбольшым аднак дасягненьнем нацыянальнага руху быў масавы ўдзел насельніцтва ў Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамадзе, апагей росквіту якое прыпаў на пералом 1926/27 гадоў. Да гэтага часу, паміма адчувальнага супрацьдзеяньня польскае ўлады, прыкладна масавыя арышты ў жніўні-верасьні 1925 г. (у выніку г.зв. „акцыі ліквідацыі КПЗБ" у арышт трапіла каля 450 асобаў), ангажаванасьць беларускага грамадзтва была значнаю. Аднак судовыя прысуды выключалі з палітычнае дзейнасьці найбольш актыўныя васобы, якія карысталіся даверам шырокіх масаў грамадзтва. Дадаткова-ж, узьнікненьне БС-РГ абазначала фармальны падзел сярод супольна дзеючых раней беларускіх элітаў. Праведзеныя ў пачатку 1927 г. масавыя арышты дзеячаў Грамады ды яе ліквідацыя нанесьлі вельмі моцны ўдар у беларускі рух ды значна яго абясьсілілі.

Да парлямэнцкіх выбараў 1928 году беларусы прыступілі аслабленыя, а на дадатак падзеленыя на канкурэнцыйныя групоўкі. Выбары праходзілі ў варунках палітычнага ўмацаваньня польскае дзяржавы, з арганізаваным польскім партыйным жыцьцём ды адносна спраўна дзеючай адміністрацыяй і паліцыяй, у гэтым палітычнай. Было гэта, між іншага, прычынай агульнага запалохваньня беларусаў, што спіхала болей радыкальных дзеячаў на камуністычныя пазыцыі, а іншых зьнеахвочвала да якой-кольвечы палітычнай працы.

У Беластоцкім Ваяводзтве існавалі тры беларускія палітычныя арыентацыі. Самымі актыўнымі былі былыя грамадаўсія дзеячы, зьвязаныя з пакліканым у лістападзе 1927 г. у Вільні Цэнтральным Выбарчым Камітэтам Беларускага Сялянска-Работніцкага Аб'яднаньня. У акрузе Н-р 5 зарэгістравалі яны сьпісы ў Сойм і Сэнат пад назвай Беларускага Незалежнага Выбарчага Камітэту Сялян і Рабочых, а ў акрузе Н-р 6 сьпіс Беларускага Сялянска-Работніцкага Аб'яднаньня. Наступную групу складалі дзеячы палітычна памяркоўнага накірунку, якія выводзіліся зь Беларускага Сялянскага Саюзу, Беларускай Хрысьціянскай Дэмакратыі й Беларускага Праваслаўнага Дэмакратычнага Аб'яднаньня. Стварылі былі яны ў Вільні Беларускі Цэнтральны Аб'яднаны Выбарчы Камітэт, а на абшары Беласточчыны акруговыя камітэты ў Гродне, Валкавыску й Саколцы. Аб'яднаны Выбарчы Камітэт паставіў сваіх кандыдатаў у Сойм і Сэнат разам з жыдоўскімі групоўкамі на сьпісе Блёку Нацыянальных Меншасьцяў. Беларусы — прыхільнікі супрацоўніцтва з прапілсудчыцкім Беспартыйным Блёкам Супрацоўніцтва з Урадам — былі трэцяй арыентацыяй. Іхнім прадстаўніцтвам была Беларуская Радыкальная Сялянская Партыя, створаная ў кастрычніку 1927 г.

За беларускія галасы, як і ў выбарах 1922 году, змагаліся таксама польскія арганізацыі, а ў прыватнасьці вельмі актыўная Польская Сацыялістычная Партыя ды Расейскае Нацыянальнае Аб'яднаньне ў Польшчы, якое паставіла ў акругах сьпіс пад назвай „Рускі". Брак кансалідацыі беларускіх сілаў бачны быў у перадвыбарчай акцыі павасобных палітычных арыентацыяў. Няўдачай закончылася, прыкладна, спроба стварэньня Беларускім Цэнтральным Аб'яднаным Выбарчым Камітэтам лякальнага выбарчага камітэту ў Бельску Падляскім. Стапнелі бо перачэсаныя арыштамі шэрагі дзеячаў. Бальшыня беларусаў адсунулася ад дзейнага ўдзельніцтва ў палітычным руху, а частка перайшла на камуністычныя пазыцыі. У арганізацыйную пустэчу ўваходзілі польскія арганізацыі або КПЗБ з радыкальнымі сацыяльнымі лёзунгамі.

У такой заблытанай сытуацыі 4 сакавіка 1928 г. беларусы не здабылі на Беласточчыне ні ваднаго мандату. Праўда, у акрузе Н-р 5 (беластоцка-валкавыскай) сьпіс Беларускага Незалежнага Выбарчага Камітэту Сялян і Рабочых сабраў 16 487 галасоў, але й так пару сотняў бракавала дзеля мандату. Затое ў акрузе Н-р 4 (бельскай) паслом стаў польскі кандыдат зь сьпісу ПСП, на якога ў частцы насельных у бальшыні беларусамі гмінаў аддало свае галасы звыш паловы ўсіх, хто ўзяў удзел у выбарах.

Пасьля звыш двух гадоў, у 1930 г., адбыліся чарговыя выбары ў Парлямэнт ПР. У гэты час праходзіла на польскім палітычным форуме вострая барацьба за ўладу. У беластоцкіх варунках канфрантацыйны прыход улады скіраваны быў таксама супроць беларускіх арганізацыяў. Шматлікімі арыштамі ўлада ліквідавала найважнейшых дзеячаў, што палітычна дзейную групу схіляла да пераходу амаль у цэлым на пазыцыі КПЗБ. Камуністы-ж сваімі папулістычнымі лёзунгамі набывалі штораз большую падтрымку з боку вясковага беларускага насельніцтва. Дзеячы памяркоўнага накірунку былі нешматлікімі й перад усім звасяроджваліся на культурна-асьветніцкай працы ў Таварыстве Беларускай Школы, за ўплывы ў якім мусілі змагацца з пракамуністычнымі актывістамі.

Выбары 1930 году былі ўжо толькі спробай узяць беларусамі ўдзел у палітычнай гульні. Усе практычна ініцыятывы закончыліся няўдачай — прыкладна, камуністычныя сьпісы, на якіх былі беларусы, былі скасаваны й не ўзялі ўдзелу ў галасаваньні. Прaлямэнцкія выбары 1930 г. былі ўсяго палітычнай дэманстрацыяй.

Параўноўваючы зьвязаныя з выбарамі падзеі з 1922 і 1928 ды 1930 гадоў, можна заўважыць падставовую разьніцу, перад усім у арганізацыйнай сфэры. Першыя выбары, нягледзячы на цяжкі пэрыяд прыстасаваньня беларускага грамадзтва да новых варункаў у польскай дзяржаве, адзначаліся лепшай арганізаванасьцяй, еднасьцяй ды выразнай пасьлядоўнасьцяй дзеяньняў беларускага руху. Наступныя характэрныя былі амаль арганізацыйным хаосам ды датклівым бракам лідэраў. Шматгадовыя рэпрэсіі з боку польскае ўлады пазбавілі беларускі рух у 1922-30 гадох аўтарытэтаў — на ўсіх яго ўзроўнях, ад вёскі па цэнтар у Вільні. Такая сытуацыя спрыяла разьвіцьцю нелегальнай і гэтым самым засакрэчанай КПЗБ зь яе цэнтралізаванымі структурамі. Сытуацыя гэтая ўзначаліла таксама працэс асыміляцыі беларусаў ды павольнага іх уваходжаньня ў польскія палітычныя структуры, перад усім левыя, але з другога боку — таксама-ж у праўрадавыя.

**СЛАВАМІР ІВАНЮК**

# BYELORUSSIAN NEWS

THE BULLETIN OF BYELORUSSIAN DEMOCRATIC UNION

NO. 3 JANUARY 1992

Contents